ЗРАБЕЦЕ САМІ

# ТЭРРАРЫУМ

Тэррарыум—гэта невялікі шкляны домік, дзе могуць жыць яшчаркі, жабы, вужакі, рыбы і інш.

Тэррарыум бывае двух відаў.

Звычайны тэррарыум—гэта вялікая драўляная скрынка з шклянымі бакамі (сьценкамі); для накрыўкі скрынкі служыць сетка, марля ці проста ў дошцы пракручваецца некалькі дзірачак, каб у скрынку магло праходзіць паветра.

Дно доміка (скрынкі) засыпаецца тоўстым пластом зямлі ці пяску і засаджваецца расьлінамі. Трэба на дно палажыць каменьняў, кары і яшчэ чаго-небудзь, шмат якія жывёлы любяць пад іх хавацца.

У зямлю ўкапайце дзьве шкляначкі; адну для вады, другую—для кармленьня.

Каго-ж можна пасадзіць у такі тэррарыум? Сухапутных жабаў, яшчарак. Тэррарыум трэба паставіць на сонечным вакне. Карміць яшчарак трэба чарвякамі, тараканамі, павукамі, мухамі.

Расьліны тэррарыума кожны дзень трэба апырскваць цеплаватай вадою.



Другі від тэррарыума робіцца інакш. Дно скрынкі абіваецца бляхай. Дно засыпаецца, як і ў першым, зямлёю, але пасярод скрынкі ўкопваецца міска з вадою. Гэта—басэйн. На дно басэйну насыпаецца чысты пясок, а ў ваду кладуць веткі вадзяных расьлін. Дно тэррарыума засаджваюць балотнымі расьлінамі. Ля вады трэба ўкапаць шклянку для кармленьня жывёл.

Пасадзіць у такі тэррарыум можна розных жабаў, вужак, балотных чарапах.

Як даглядаць гэтых жывёл вам раскажа настаўнік прыродазнаўства.

# РАНІЦОЮ 5 ХВІЛІН

Фізычныя практыкаваньні аздараўляюць чалавека. Асабліва карысна іх рабіць кожны дзень, раніцою.

Да таго, як пачаць практыкаваньне—трэба праветрыць пакой і выпіць трохі перагатаванай вады.

Кожнае практыкаваньне паўтараецца 3 разы. Калі скончыш—добра вытры ўсё цела скарачом (ручніком) і паляжы з хвілінку, потым уставай і адзявайся.

*Практыкаваньне 1.* Лежачы ў ложку на сьпіне, выцягні рукі з абодвых бакоў тулава, і так сядзі без дапамогі рук. Як сядзіш, дык глыбока ўдыхай паветра, потым лажыся і выдыхай паветра.



*Практыкаваньне 2.* Таксама, лежачы ў ложку, выцягні ногі, самкні адну да другой і падніме іх. Рукі ў гэты час павінны ляжаць уздоўж цела.



Калі ногі падняты, разьвядзі іх у бакі, зноў зьвядзі разам і адпусьці на ложак. Калі ногі паднімаеш—выдыхай, а калі разводзіш, зноў зводзіш разам і адпускаеш—удыхай!

*Практыкаваньне 3.* Стань ля ложка на падлозе. Рукі выцягні наперад. Сьпіну добра прыгні, а галаву трохі адкінь назад. Гэтым часам удыхай паветра. Потым рукі апусьці ўніз і выдыхні паветра.

*Практыкаваньне 4.* Перакінься



на жывот і падніміся на руках і пальцах ног. Рукі ў локцях razagni. Паветра выдыхай, калі паднімаешся з ложка. Пасьля таго адпускайся зноў (выдыхай паветра), — толькі локці паступова згінай.

*Практыкаваньне 5.* Стань на ногі. Рукі вазьмі ў бакі. Ногі пастаў так, каб пяткі былі разам. Не згінаючы тулава і не разгінаючы пятак — прысядзь. Калі прысядзеш—выдыхай паветра, калі ўстаеш—удыхай.



*Практыкаваньне 6.* Далоні складзі так, нібыта ў „ладкі" б'еш, рукі закладзі за галаву і пачынай як быццам сеч што сякерай (так махай рукамі). Спачатку сячы проста перад сабою (зьверху ўніз). Потым з правага боку на левы, зноў перад сабою. Потым з левага боку на правы і зноў перад сабою. Калі закладваеш рукі—удыхай, калі сячэш—выдыхай.

*Практыкаваньне 7.* Добра выпрастай сьпіну, зьвядзі рукі ўгору і ўдыхні паветра. Цяпер прысядай:



ногі растапыр, галаву прыгні да кален, рукі сагні і локці прыцісьні да бакоў. Прысядай на ўсю ступню. Калі прысядаеш, паветра выдыхай.

Проф. **Камарэнка.**

ЗЬМЕСТ


1. Скора Ўсебеларускі зьлёт.
2. Сонечны шлях—**М. Белякоўскага.**
3. Камчатка—краязнаўчы нарыс **К.**
4. Беларусь стане граматнай—нарыс **А. Якімовіча.**
5. Наша газэта.
6. У ліпнёвы вечар—верш **А. Розны.**
7. Спазьніліся—п'еска **Р. Акульшына.**
8. Гурток у паходах—допіс **Аксельрода.**
9. Узбраеньне ў жывёл, расьлін і ў чалавека—нарыс **А. Поляка.**
10. Хлопчык-булачнік—апав. **А. Рэйзіна.**
11. Морскае дзіва—нарыс **Галіцына.**
12. Паляваньне на барсука—апав. **А. Сераброўскага.**
13. Электрычнасьць—апав. **А. Невярава.**
14. Хітры асёл—казка **І. Франкі.**
15. Водкладка: 2-ая стар.—тэррарыум; раніцою 5 хвілін. 4-я стар.—Падумай.



Рэдкалегія: **Баліцкі А., Буклей В., Маур Я., Пякарчык А., Якімовіч А.**

Нам. рэдактара **А. Якімовіч.**

Год выданьня 5-ты.

Да змаганьня за справу працоўных—будзь гатоў!

УМОВЫ ПАДПІСКІ:
На 1 м-ц — р. 20 к.
„ 3 м-цы — р. 60 к.
„ 6 м-цаў 1 р. 20 к.

# Беларускі Піонэр

АДРАС РЭДАКЦЫІ:
МЕНСК,
Комсамольская, 25.

ДВУХТЫДНЁВАЯ ДЗІЦЯЧАЯ ЧАСОПІСЬ, ОРГАН ЦК ЛКСМБ І НАРКАМАСЬВЕТЫ БССР

№ 13-14 ооооооооо ЛІПЕНЬ ооооооооо 1929 г.




## СКОРА ЎСЕБЕЛАРУСКІ ЗЬЛЁТ!

### НЯ ТРАЦІЦЬ НІВОДНАЙ ХВІЛІНЫ ДАРМА

Ужо набліжаюцца да канца раённыя піонэрскія зьлёты. Хутка (згодна пастановы ЦК ЛКСМБ, *12 жніўня*) зьбярэцца ў Менску Ўсебеларускі зьлёт піонэраў.

Але з чым прыедуць прадстаўнікі раёнаў на зьлёт? Што кожны з іх прывязе з сабой, якую практычную параду ў рабоце атрадаў ён мае прапанаваць зьлёту? Бо ня толькі-ж спадзявацца, што нехта нешта зробіць.

Задачы зьлёту ўсім вядомы. Адна з асноўных задач—падагуліць вопыт работы па новай сыстэме, выявіць, што ў ёй добрага, а што дрэннага, што прывіваецца ў рабоце і чаму, а што не.

Трэба загадзя ўважліва выбраць з работы тое, што можа быць паказана, як прыклад.

Асаблівую ўвагу на зьлёце павінна мець выстаўка жывых прыкладаў работы. Усё, што ёсьць лепшага ў рабоце, павінна заняць месца на выстаўцы: насьценныя газэты, модэлі розных вырабаў, вынаходкі і г. д. Уся лепшая матар'яльная творчасьць дзяцей павінна красавацца на выстаўцы, бо ў гэтым месцы, лепш чым дзе, усе прадстаўнікі піонэрскіх атрадаў змогуць запазычыць лепшыя ўзоры жывой работы.

Ніводная кніжка ня можа так яскрава давесьці, навучыць чаму-небудзь, як жывы прыклад. Тое, што гаворыцца ў дакладах, бяз пэўнай ілюстрацыі, ня будзе мець належнага посьпеху.

Словы могуць забывацца, а тое, што ўбачыш ды вывучыш—не забудзецца. Работа грамадзкая можа быць ілюстравана належнымі дыяграмамі, плякатамі.

Дэлегаты, якія вылучаюцца на Ўсебеларускі зьлёт, павінны асабіста падрыхтавацца да гэтай справы. Трэба добра азнаёміцца з навейшымі папулярнымі кніжкамі аб рабоце атрадаў, аб новых мэтодах работы. У іншым разе дэлегат можа ўсё „прапусьціць між вушэй“, ня ўспрыняць належным чынам багатага вопыту работы ўсёй організацыі. Мала карысьці ад такога дэлегата будзе мець і тая організацыя, якая яго пасылае.

А таму на мясцох трэба загадзя ўлічыць усе гэтыя ўмовы зьлёту і выкарыстаць зьлёт для паляпшэньня свае працы ў далейшы час.

Праведзеныя дагэтуль раённыя зьлёты гавораць за тое, што ня ўсюды былі добра організаваны да зьлёту атрады, ня ўсюды зьлёты дасягаюць свае мэты.

Калі мы пісалі пра ўдалы зьлёт чэрвенскіх піонэраў, дык зусім нельга гэтага сказаць пра зьлёт такой організацыі, як *Барысаўская.* У Барысаўшчыне да зьлёту амаль не рыхтаваліся і павадыры і комсамольцы. Грамадзкасьць амаль нічога ня ведала пра зьлёт. А ў выніку—правал зьлёту. Гэтага ні ў якім разе нельга дапусьціць іншым організацыям. А тым больш нельга дапусьціцца, каб Усебеларускі зьлёт піонэраў застаў атрады не падрыхтаванымі.

## ЦІКАВА І КАРЫСНА.



*Улетку на рацэ з кніжкай і газэтай.*



*Апавяданьне М. БЕЛЯКОЎСКАГА* *Малюнкі М. ФІЛІПОВІЧА*




# I.

ЦЯГНІК падышоў да станцыі, асьветленай яркімі агнямі. Зашыпелі тармазы; на пэроне пачуўся званок. Калёсы яшчэ трохі пракаціліся па рэльсах і сталі.

З вагону вышлі кабета і хлопчык са сваімі рэчамі, і разам з другімі людзьмі пашлі да сьветлых дзьвярэй—пакою для пасажыраў.

— Вось і прыехалі, Аляксей!—сказала кабета:—да мястэчка, здаецца 16 вёрст коньмі, і мы скора ўбачым дзядзьку.

— Больш сямі гадоў ня бачыліся,—адказаў хлопчык:—насілу і дабраліся мы да яго. Гэта падумаць толькі, успомніць усе тыя перашкоды, якія нам прышлося перамагчы пры выезьдзе з Польшчы!

Гаворачы гэта яны ўвайшлі ў пакой і накіраваліся далей, да другіх дзьвярэй. Праз іх яны вышлі на двор за вагзалам. Цёмная ноч зноў з усіх бакоў ахапіла іх. Яны пачалі ўглядацца ў цемру ночы і з усіх сіл напружвалі вочы. На дварэ сьвету ня было і спачатку нічога няможна было ўбачыць.

— Здаецца, ісьці направа,—сказала кабета,—там чутны галасы...

— Вам да мястэчка?—голасна запытаў як-бы вырасшы з зямлі балагол, амаль што выхватваючы з рук кабеты яе рэчы.

Пасьля падцьвярджальнага адказу, ён узяў карзіну і розныя клумкі і панёс, так што трэба было толькі сьпяшацца за ім.

У балагола быў яшчэ адзін пасажыр і сядзець было досыць добра. Кабета з сынам селі на воз, пацяплей абхінуліся і агледзеліся наўкола. Некалькі вазоў ужо ад'яжджала ад вагзалу.

Балагол узьлез на воз і зьлёгку сьцебануў каня пугаю. Конь матнуў грываю, і воз крануўся. Ехалі па вузкай вулачцы ад станцыі да невялікага пасёлку.

Была сьвежая ночка раньняй вясны. Большая частка сьнегу ўжо растала і вада стаяла ўсюды. Удзень праменьні сонца растаплівалі рэшткі сьнегу, а ўночы зьлёгку падмярзала. Коні з трэскам ламалі тонкі лёд, колы вязьлі ў гразі.

Балаголы праехалі галоўную вуліцу пасёлку і выехалі ў поле. Агеньчыкі станцыі хутка адпаўзалі на небасхіл, заставаліся далёка ззаду. У полі дарога была значна лепшай, і едучых ня гэтак моцна трэсла. Балаголы ехалі цэлаю чарадою і зрэдку пераклікаліся.

Аляксей, выспаўшыся ў вагоне, цяпер глядзеў наўкола. На межах, у полі, яшчэ заставаўся сьнег. Межы выдзяляліся белымі палосамі сярод цёмнай зямлі.

Поле пачало пераходзіць у маленькі лес. Там і тут на фоне неба выдзяляліся цёмныя абрысы дрэваў. Яны беглі насустрач балаголам, абнімалі іх і губляліся ў цемры ночы. Замест іх зьяўляліся другія, іх было ўсё больш і больш. Яны таксама беглі па абодвых бакох дарогі і таксама ўваходзілі ў глыб цёмнай імглы. Зямля трохі, зусім няпрыкметна, зьніжалася, на дарозе сустракалася больш лужын. Часьцей трашчала тонкая скарынка лёду і воз нахіляўся то на адзін, то на другі бок. У той-жа час гусьцелі сустрэчныя дрэвы і беглі ўжо не паасобку, а гуртамі.

З бакоў дарогі паказалася вада; воз ехаў па грэблі, якую праклалі праз досыць нізкае месца, дзе рос лес. Увесну тут заўсёды была вада; бывалі выпадкі, што грэблю размывала. Праехалі некалькі мастоў. Грукат вазоў пад драўляным мастком нагадваў Аляксею гулкі гром у навальніцу. Голыя галіны дрэваў не закрывалі ўсяго неба з блішчэўшымі на ім зоркамі. Разам з імі неба адбівалася ў вадзе.

Аляксей сядзеў на возе балагола і глядзеў на дарогу. Ён думаў аб тым, што яго чакае ўперадзе і аб тым, што прашло.

# II.

Сям'я Калінчукоў жыла ў аднэй з вёсак заходняй часткі Меншчыны. Аляксей зусім ня памятаў свайго бацькі, бо таго забілі на вайне ў 1915 годзе, калі Аляксей быў яшчэ маленькім. Пасьля сьмерці мужа матка Аляксея перайшла жыць у суседняе сяло да свайго брата. Малы Аляксей тады вельмі здружыўся з сваім дзядзькам Нічыпарам. Але Нічыпара скора забралі ў армію і Аляксей з маткаю, ды яшчэ старым дзедам, засталіся адны на гаспадарцы. У 1916 годзе дзядзька, ранены, прыяжджаў на кароткую пабыўку ў сяло. Прыход немцаў, грамадзянская вайна надоўга адарвалі яго ад сваіх. Астатні раз Аляксей бачыў яго ў 1920 г. Тады яны расставаліся ў пэўнай надзеі на скорае спатканьне, але польская мяжа разлучыла іх на доўгія годы. Дзядзька Нічыпар быў ужо дэмобілізаваным чырвонаармейцам. Цяпер ён выпісаў з Польшчы ў Беларусь сястру з пляменьнікам.

Аляксей моцна непакоіўся аб сваім вучэньні. Некалькі гадоў ён хадзіў у сельскую школу, потым прапусьціў нават два гады. Усё-такі ён спадзяваўся падагнаць тое-сёе летам і ўвосень трымаць колёквіўмы ў „працоўную школу", як пісаў дзядзька.

Гэткімі думкамі быў заняты Аляксей доўгі час.

— Ужо блізка!—сказаў балагол.

Аляксей з маткаю пачалі глядзець наперад, туды, куды вяла дарога. Далёка ў цёмнай імгле паказалася сьветлая кропка. Потым зьявілася некалькі кропак; яны сьвяціліся спачатку наперадзе, а потым перамясьціліся трохі ўлева.

Гэтае слова, прамоўленае балаголам, як маланка, прайшло скрозь цела Аляксея. Ён пачуў, як моцна забілася яго сэрца. Некалькі хвілін—і канец дарозе!.. Зірнуўшы на маці, ён заўважыў, што яна ў гэткім-жа становішчы.

З захаду падыходзілі лёгкія хмаркі і засьцілалі шэраю імглою неба. Зоркі хаваліся; некаторыя з

іх нявыразна праглядалі праз хмары. Усход пасьвятлеў і на ім зьявілася жоўтая палоска.

Ноч праходзіла. Сьвітала. Уехалі ў мястэчка. Вуліца была няшырокая, з аднаго і з другога боку пацягнуліся хаты. У адных хатах вокны былі асьветлены; другія застыўшымі чорнымі вачыма глядзелі на вуліцу. Аляксей глядзеў направа, налева і стараўся ўгадаць, дзе трэба будзе злазіць. Балагол супыніў каня.

— Тут!—амаль што крыкам вырвалася ў Аляксея.

Але балагол супакоіў яго:

— Не, пачакайце трохі. Кватэра Нічыпара Кавуна бліжэй да коопэратыву.

Яшчэ некалькі хвілін. Аляксей ужо ня мог чакаць. А тут яшчэ пасажыр, што ехаў разам з імі, так доўга злазіў ды яшчэ адвязаў сваю карзіну, што была прывязана ззаду да возу.

Зноў паехалі. Аляксей ужо не азіраўся па бакох, яму хацелася выскачыць з возу ды пабегчы ў абгонку з канём. Нарэшце, конь стаў перад варотамі каля хаты з жоўтымі ваканіцамі. У момант Аляксей апынуўся на зямлі і схапіў з возу нейкі вузел.

— Ужо дома! Дома!..—крыкнуў ён.

З двара выбег нейкі чалавек і кінуўся да Аляксея, а потым стаў абнімаць яго маці. Гэта быў дзядзька Нічыпар.

— Вось і прыехалі, мае вандроўнікі,—сказаў ён— з панскай Польшчы ў Савецкую Беларусь!..

III.

Дзядзька Аляксея працаваў у краме мясцовага спажывецкага таварыства. Ён займаў кватэру амаль што супроць коопэратыву. Кватэра складалася з аднаго пакою, які цяпер перагарадзілі шырмаю, так што сяк-так можна было зьмясьціцца. Дзядзька Нічыпар дастаў недзе невялічкі столік, паставіў яго перад вакном і сказаў Аляксею:

— За гэтым столікам будзеш вучыцца. Вось табе некалькі сшыткаў, аловак і задачнік па арытмэтыцы.

Аляксей за некалькі дзён адпачыў з дарогі. З дзядзькам ён абышоў усё мястэчка, бо трэба-ж ведаць месца дзе жывеш! Аддыхаўшы, Аляксей энэргічна ўзяўся за працу. Кожны дзень ён патроху ўспамінаў тое, што вучыў раней. Ён рашаў задачы, чытаў географію, разглядаў падоўгу карту. У той-жа час ён дапамагаў маці ў хатняй працы, калоў дровы і прыносіў іх у хату. У вольны час, калі была добрая пагода, ён выходзіў за мястэчка—у поле, у маленькі лясок ці да невялікай рэчкі, што за некалькі вёрстаў ад мястэчка ўлівалася ў другую, большую раку.

У апошнія дні красавіка Аляксей прыняўся разам з дзядзькам за працу ў невялічкім агародзе пры іх кватэры. Яны ўдваіх ускапалі зямлю і прыгатавалі некалькі градак. Маці ўжо зьбіралася пасеяць капусную рассаду. Цяпер Аляксей больш часу, чым калі-небудзь, праводзіў на двары. Вясновы росквіт прыроды, росквіт вясёлага, маладога жыцьця моцна захапіў яго. Ён разам з усім жывым упіваўся цёплаю вясноваю паветраю, з зацікаўленасьцю сачыў за ростам маладой травіцы, за распусканьнем дрэваў. І ў той-жа час ён не запускаў сваіх заняткаў.

IV.

Аднойчы дзядзька Нічыпар пазьней, чым заўсёды, вярнуўся з коопэратыву дамоў і на пытаньне аб прычынах спазьненьня адказаў:

— Прыбіралі будынак, вывешвалі плякаты, лёзунгі. Заўтра Першае Мая—пойдзем на дэмонстрацыю. Затым дзядзька зьвярнуўся да Аляксея:

— Што-ж, і ты пойдзеш. Першы раз прымеш удзел у сьвяткаваньні Першага Мая. Ды й матка, я думаю, не адмовіцца!

З гэтымі словамі дзядзька працягнуў Аляксею досыць шырокую чырвоную істужку.

— Ля рукава прышыем заўтра, як пойдзеш.

Зразумела, Аляксей адразу парашыўісьці.



*…алагол узьлез на воз і зьлёгку сьцебануў каня пугаю.*

Пачатак мітынгу быў прызначаны на дзесяць гадзін. К гэтаму часу калёны арганізаваных удзельнікаў дэмонстрацыі павінны былі сабрацца на плошчы кругом трыбуны. Аляксей вышаў з дому раней за матку, разам з дзядзькам, абое з чырвонымі істужкамі на рукавох. Дзядзька накіраваўся да клюбу—пункту збору сяброў саюзу Саўгандальслужачых. Аляксей пашоў далей па вуліцы і, дашоўшы да таго месца, дзе яна ўлівалася ў плошчу, агледзеўся назад. Вуліца прыбралася ў чырвоныя сьцягі, якія былі вывешаны пры кожнай хаце. Некалькі гірляндаў рознакаляровых сьцяжкоў перакінуліся з аднаго боку вуліцы на другі.

Плошча яшчэ пуставала. Акрамя малых дзяцей і сьпяшыўшых некуды прахожых на ёй нікога ня было. Над убранаю трыбунаю разьвіваўся чырвоны сьцяг з чатырма белымі літарамі: **БССР**. З усіх бакоў трыбуна была прыгожа абклеена плякатамі.

Усё, што бачыў цяпер Аляксей, зьяўлялася для яго новым, цікавым! Гэтыя чырвоныя сьцягі па ўсіх вуліцах, і лёзунгі на роднай беларускай мове, і вялікія літары „БССР". Аляксей ужо добра ведаў, што яны азначаюць.

Сонца досыць высока стаяла ў небе. Залатою ракою ліліся на зямлю яго гарачыя праменьні. У сьветлым блакітным небе купаліся жаўранкі і да Аляксея ледзь даносілася іх песьня. Весела чырыкаючы, невялічкімі чародамі лёталі вераб'і. Далёка, над дрэвамі гаю, што быў за мястэчкам, плаўна і паважна апісвалі кругі адзін за адным буслы.

Аляксей зьвярнуў на другую вуліцу, у канцы якой зьмяшчалася сямігодка. Сонца кінула яму ў твар сноп бліскучых праменьняў, так што ён зажмурыў вочы. Вуліца гэтая была „на пясочку“ і таму гразі на ёй ня было. Яна мела зусім сьвяточны выгляд; жыхары стаялі каля сваіх хат і перакідваліся паміж сабою рэдкімі словамі. Некаторыя па-двое, па-трое ішлі да плошчы. Некалькі вучняў бегма абагналі Аляксея; яны былі бяз кніжак і сьпяшаліся да сямігодкі, каб адтуль выйсьці на дэманстрацыю.

Раптам галавы ўсіх павярнуліся ўздоўж вуліцы. Шырокі чырвоны сьцяг паказаўся ў канцы яе. За ім ішла рознакаляровая маса. Гэта сямігодка выходзіла на дэманстрацыю. Да вушэй даносіўся прыемны малады сьпеў. Калёна падыходзіла бліжэй, і можна было разабраць словы песьні.



*Усё, што бачыў цяпер Аляксей, зьяўлялася для яго новым, цікавым.*

— Ад веку мы спалі і нас разбудзілі, мы знаем, што трэба рабіць!

Сонечныя праменьні гарэлі на палотнішчы сьцягу, які несьлі двое вучняў перад усёй грамадой. Сонца сьвяціла так ярка, быццам хацела згарэць у хвіліну, выпусьціўшы мора бела-жоўтага жару і заліўшы ім неба і зямлю. Аляксею здавалася, што ён бачыць перад сабой сьветлы шлях, долам якога зьяўляліся праменьні сонца. І па гэтаму шляху ішла маладая грамада з чырвоным сьцягам наперадзе.

Цяпер у Аляксея з новаю сілаю вынікла імкненьне ісьці туды, у той будынак, дзе зьмяшчалася сямігодка. І ня толькі для таго, каб вучыцца, атрымліваць карысьць сабе, а дзеля таго, каб жыць, працаваць з гэтаю грамадою, ісьці па адным шляху, у ногу з ёй. Праз увесь час мітынгу Аляксей прадстаўляў перад сабой той сьветлы шлях грамады, які ён нядаўна бачыў. І сэрца яго рвалася дзейнічаць, змагацца, каб уступіць на той шлях...

V.

Аляксей здавальняюча вытрымаў колёквіумы і быў залічаны ў пятую клясу сямігодкі. З тым-жа гарачым сэрцам ён прыняўся за вучобу. Кожны дзень было па шэсьць лекцыяў, а ўвечары Аляксей часта хадзіў на заняткі розных гурткоў. У вольны час ён гутарыў з дзядзькам ці з маткай і тлумачыў ім тое, што расказвалі ў школе. Раней маці магла трохі чытаць і пісаць; з цягам часу шмат чаго забылася. Аляксей „ліквідаваў няпісьменнасьць“ у сям'і, і цяпер тыя кніжкі, якія ён атрымліваў з школьнай бібліотэкі, іншы раз чытала яго маці. Калі-ні-калі да Аляксея прыходзілі таварышы па клясе; тады яны разам чыталі якую-небудзь кніжку ці размаўлялі паміж сабой, або гулялі ў шашкі. Аляксей таксама заходзіў да таварышоў. У кароткі час ён звыкся з школаю, з сябрамі, цалком увайшоў у новае жыцьцё.

На дварэ стаяла позьняя восень.

...Дзень выдаўся ясны, сьветлы.

Вуліцы мястэчка зноў убраліся сьцягамі, якія квітнелі ў праменьнях сонца ружовымі кветкамі, ня гледзячы на восень. Гэта быў дзень Кастрычнікавай рэволюцыі, і ў мястэчку адбывалася дэманстрацыя.

Шчыльнымі радамі ішлі дэманстранты, калёна за калёнаю. Сярод другіх з чырвоным сьцягам ішла калёна сямігодкі. У яе шэрагах у ногу з усімі шагаў Аляксей. Цяпер ён далучыў свой голас да звонкай песьні грамады, ішоў разам з ёю, зьяўляўся часткай яе. І ён адчуваў сябе блізкім да ўсёй вялікай грамады, якая ішла некалькімі калёнамі па вуліцы пад двума дзесяткамі чырвоных сьцягоў.

Сонца аблівала яе морам сьвету і зноў, як і тады, увесну, Аляксею здавалася, што ідуць па шляху, злучаючы сонца з зямлёй. Аляксей успомніў сваё жыцьцё ў Польшчы, сваё імкненьне і перажываньні гэтаю вясною, гэтым летам. Ён убачыў, што прашоў ужо параўнаўча вялікі шлях і зьдзівіўся, як далёка наперад занясло яго жыцьцё. Мэту, якую ён ставіў перад сабой, ён дасягнуў. Ён уліўся ў той колектыў, які бадзёра і рашуча ішоў па прыгожым і сьветлым сонечным шляху працы. Сонечныя кветкі красавалі на гэтым шляху. Аляксей адчуваў, што бліскучая кветка расквітнела ў яго грудзёх.

Той шлях, якім яны ідуць—вялікі шлях. І далёка пойдуць яны па ім сьмелымі крокамі. Ён гарыць сьветлым творчым полымем...

**М. Беляко́ўскі**

Капаткевічы, Мазыршчына.






# Камчатка

За 10.000 кілёмэтраў ад Масквы, за Сібірам яшчэ, на Паўночна-Ўсходняй мяжы нашага Савецкага Саюзу знаходзіцца краіна, у якой улетку ня бывае ночы. Чорныя хмары засланяюць увесь кругавід, а зямлю затопліваюць вялікія дажджы.

А калі настае зіма і сонца зьнікае з кругавіду, дык тады на шмат месяцаў робіцца ноч над усёю краінай, настае холад і такі мароз, ад якога зьмярзаецца сьліна, не даляцеўшы да зямлі.

Завецца гэта найдальшая Паўночна-Ўсходняя часьціна нашага бязьмежнага Савецкага Саюзу—Камчаткай.

На Поўначы Камчаткі, на Чукскім паўвостраве, раскінуліся бязьмежныя сьнегавыя палі. Паўднёвая частка Камчаткі зусім інакшая. Тут шмат вульканаў, якія час ад часу калоцяць увесь паўвостраў, заліваюць лагчыны струменямі лявы, выкідаюць праз дзіркі з свайго нутра гарачы попел. Іншы раз выбухі вульканаў і землятрасеньні робяць вялікую шкоду. Так, у 1923 годзе ў часе землятрасеньня морскія хвалі забралі з сабою ў мора дзьве кансэрвавыя фабрыкі і некалькі вёсак.

Дзьве з паловай тысячы кілёмэтраў займае Камчатка з Поўначы на Поўдзень. На Паўночным канцы яе знаходзіцца вялізарны сьнегавы стэп — тундра. А на Паўднёвым—вялізарная пасма гор. На Поўначы Бярынгава пратока аддзяляе Камчатку ад Амэрыкі.

Калі ў нас, у Эўропе, поўдзень, дык на Камчатцы—глухая ноч.

Морскі бераг і рэчкі захоўваюць у сабе вялізарныя багацьці рыбы. Галоўныя заняткі насельніцтва—рыбалоўніцтва. Кожны год ловяць тут каля ста тысяч тон рыбы (тонна—61 пуд), вартасьцю на 30 мільёнаў рублёў. Акіян, які абмывае поўвостраў з Поўначы і Паўночнага Ўсходу, дае ў год каля 10 тысяч тон маржоў. У лясох Камчаткі водзіцца шмат усялякае зьвярыны. Шмат ёсьць на Камчатцы і аленяў.

Камчатка—гэта краіна процілегласьцяй. Вунь стаіць хата, занесеная сьнегам; на дварэ мароз, а за некалькі крокаў ад хаты на гары знаходзіцца возера. Як ня дзіўна, але возера гэта не замярзае. У ім купаюцца людзі.

На Камчатцы купаньні зімой—гэта звычайныя зьявішчы. Там ёсьць нязьлічоная колькасьць жорлаў з тэмпэратурай да 70 градусаў. Гэтыя жорлы ўгвараюць вялікія гарачыя вазёры. У вадзе тых вазёр ёсьць шмат карысных мінэральных прымешак, таму і мясцовае насельніцтва купаецца там у маразы.

Камчацкая краіна зьяўляецца цяпер асобнаю Савецкаю Рэспублікаю, якая ўваходзіць у склад нашага Саюзу. Па сваёй плошчы Камчатка ў некалькі разоў большая за Нямеччыну і Францыю, калі ўзяць іх разам, у чатыры разы большая за Японію. На тым вялізарным абшары поўвострава жыве ўсяго 36 тысяч насельніцтва. З іх 29 тысяч тубыльцаў (камчадалы, каракі, чукчы, эскімосы, якуты, тунгусы) і 7 тысяч расійцаў, якія так зьмяніліся, што па выгляду іх трудна адрозьніць ад тубыльцаў.

Гарадоў на паўвостраве ёсьць усяго 6. Найбольшы з іх Петрапаўлаўск, які мае 1200 жыхароў.

Тубыльскае насельніцтва да нядаўніх часоў было пад прыгонам амэрыканскіх і японскіх рыбацкіх Таварыстваў. Тыя Таварыствы бязьлітасна прымушалі працаваць на сябе, па таннай цане скуплівалі ў іх хутры living рознага зьвяр'я, аленяў і інш.

Толькі з 1923 г. жыцьцё мясцовага насельніцтва палепшала. Савецкая ўлада прынесла насельніцтву волю. З таго часу мінула шэсьць гадоў. У жыцьці насельніцтва Камчаткі за гэты час адбыліся вялікія зьмены, такія зьмены, якія раней не адбываліся за цэлыя стагодзьдзі. Нават да самых найдальных куткоў Камчаткі, як да Анадыру, дзе насельныя пункты знаходзяцца адзін ад другога больш як на 600 кілёмэтраў, дакаціўся прамень новага жыцьця.

У трох вёсках наладжаны школы і клюбы. У адной вёсцы заснована Таварыства „Прэч Няпісьменнасьць“. Бібліотэка, у якой маецца шмат кніжак па розных пытаньнях, ахвотна наведваецца насельніцтвам.

Пачало днець, хутка настане на Камчатцы сапраўдны дзень.

К.



# БЕЛАРУСЬ СТАНЕ ГРАМАТНАЙ

Нарыс **А. Якімовіча**

Малюнкі **Вало.**

* * *



НАПЭЎНА кожны з вас з цікавасьцю прачытаў адно ці больш апавяданьняў, дзе апісваецца наша сьветлая будучыня. Такія творы друкаваліся і ў нашай часопісі („Скоро“—Калантай, „Першае Мая 1970 г.“). Пісьменнікі пробуюць намаляваць вобразы таго лепшага жыцьця, якое мысьліцца пры соцыялізьме. Пэўна-ж тады ня будзе ні бедных, ні багатых, ня будзе пакрыўджаных, галодных, ня будзе няграматных і г. д. і г. д.



Такою выглядала наша школа пасьля рэволюцыі. І...

Да такога лепшага жыцьця мы імкнемся. Кожны пражыты год упартай працы і змаганьня на шмат набліжае наш Савецкі Саюз да соцыялізму. Асабліва вялізарны зрух уперад па гэтым шляху пачаўся з сёлетняга году. Кожны будучы год—гэта сямімільны крок да росквіту, да ўсебаковага разьвіцьця краіны.

Дагэтуль мы ня так скора шагалі ўперад. Справа ў тым, што да сёлетняга году наш Саюз убіраўся ў сілу, залечваў раны, зробленыя краіне рознымі войнамі. Трэба было ўсё прывесьці ў парадак: паправіць разбураныя за час вайны фабрыкі, заводы, наладзіць сельскую гаспадарку.

Рабочыя і сяляне пад кіраўніцтвам свайго слаўнага авангарду — Ленінскай Комуністычнай Партыі—з гонарам выканалі першую сваю задачу,—аднавілі гаспадарку.

Цяпер другая задача: *соцыялістычнае будаўніцтва*

Што гэта азначае?

А тое, што нам трэба з адсталай, у пераважнасьці земляробскай краіны, зрабіць краіну фабрык і машын, краіну высокіх ураджаяў, багатую кругом краіну.

Вось гэтую задачу і пачалі выконваць мы з сёлетняга году. (Больш падрабязна наконт гэтага раскажам у наступных нумарох).

Напэўна вы чулі словы: „Пяцігодка“, „Пяцігадовы плян“.

У нашай мове цяпер гэта самыя популярныя словы. Ды ня толькі адны словы—популярна і іх значэньне. Пяцігодка—гэта, кажучы проста, плян нашага будаўніцтва на бліжэйшыя пяць год—з 1928—29 г. па 1932—33 г.

У пяцігадовым пляне дакладна разьлічана, як, у якой меры будзе расьці наш Саюз за пяць год.

У гэтым нарысе мы раскажам сёе-тое аб тым, як будуць разьвівацца школы Беларусі за пяцігодку.

## Будуць вучыцца ўсе дзеці

Многім ня верыцца, а праўда. Праз пяць гадоў *Беларусь стане граматнай!* Гэта найвялікшая гістарычная падзея. Беларусь, якая цэлымі вякамі была цёмнай, забітай горам і бяспраўем, дажывае на нашых вачох да такіх слаўных дзён!

Нават да вайны 1914 году ў Беларусі было ня больш трэцяй часткі граматных людзей. Ну, пэўна вы трохі чулі пра даўнейшую грамату пры цары. Фактычна ніякай тады сур'ёзнай граматы і ня было. На працягу 3—4 год вучню ўбівалі ў галаву царкоўную балбатню: розныя малітвы, эвангельлі, законы „божыя“ і падобную нікчэмную і шкодную для працоўных чапуху. Такая грамата давала карысьць пануючай клясе—буржуазіі,—але толькі не працоўным. Буржуазія пры дапамозе папоў з іх вераю старалася выхаваць у працоўных мас пакорлівасьць перад багатым, укараніць думку аб тым, што трэба працаваць на пана і слухацца пана...

Да таго-ж мала хто з беднаты канчаў хоць-бы пачатковую школу. Адны канчалі сваё вучэньне на першай групе, другія—на другой, і рэдкія „шчасьліўцы“ пападалі ў апошнія групы... А колькі было і такіх выпадкаў, што вучань бачыў школу толькі адзін дзень. З першага-ж дню дастаў: „каленкі на жарстве“, „лапу“—і на гэтым „скончыў“ школу: яна стала для вучня адваротнай; школы і настаўніка такі вучань баяўся, як агню...

Наша працоўная школа зусім не такая. Праўда, сёе-тое яшчэ кепскае ёсьць і ў нашай школе. Але год за годам і мы назаўсёды разьвітаемся з рэштамі старой школы.

Цікавае параўнаньне. У 1913 г. у нас вучылася у пачатковай школе 44% усіх дзяцей 8—11 летняга ўзросту. У 1926—27 г. ужо вучылася 72 % дзяцей.

А праз пяць год—у 1932—33 г.—*будуць вучыцца ў школах усе дзеці ня толькі гораду, але і вёскі.*

Савецкая ўлада паклапацілася за які дзесятак год зрабіць для справы асьветы куды больш, чым розныя цары за вякі панаваньня

ў Беларусі. Такога бурнага росту асьветы яшчэ ня ведае ніводная буржуазная краіна.

Ня толькі павялічыцца лік вучняў. Гэта яшчэ ня ўсё. Гэта толькі выходны пункт—пачатак школьнага будаўніцтва. Дзеля таго, каб пашырыць армію вучняў, трэба пашырыць будынкі для іх, патрэбна больш настаўнікаў, і усё, што зьвязана з навучаньнем у школе. І ўсё гэта будзе адпаведным чынам пашырацца. На 68% павялічаць за пяцігодку школьныя комплекты для першага концэнтру і на 31%—для другога.

Але і на гэтым справа не канчаецца. Мала пявялічыць—трэба і палепшыць. А паляпшаць ёсьць што. Хто-хто, а вучні ведаюць гэту крыўдную для іх „якасьць" вучобы. Даволі адзначыць такі факт: толькі 10% вучняў канчае школу. Рэшта—адсяецца. Школы нашы страх як бедныя ў параўнаньні з тымі, якія нам патрэбны школы. Пры тым, можна і такія недарэчнасьці спаткаць: у адным месцы густа, а другім пуста. У Капыльскім раёне амаль усе дзеці абхоплены школай, а ў Халопеніцкім толькі палова дзяцей вучыцца ў школе...

Адсюль вынікае шмат неадкладных задач для паляпшэньня школы.

### Памагчы бедным вучням.

Многа дзяцей ня можа хадзіць у школу па беднасьці: няма вопраткі, няма кнігі, няма нічога. Дома яшчэ сяк-так пражыве зіму на печы з прусакамі, а ў школу выйсьці няма магчымасьці. А вучыцца-ж трэба. І вось дзяржава павінна так ці інакш памагчы такім дзецям вучыцца: даць дармовыя памяшканьні, гарачыя сьнеданьні, падручнікі.

І такая дапамога будзе. За пяць год мяркуецца страціць на дапамогу бедным вучням *ня менш трох мільёнаў рублёў*. Апроч таго, розныя грамадзкія організацыі будуць клапаціцца ў большай меры, чым дагэтуль аб бедных вучнях.

### Школы павінны мець крэйду!

Некалькі год таму назад у час перавыбараў с/с я ў Барысаўшчыне натрапіў на такую школу, дзе нават крэйды ня было. У лютыя маразы вучні пакрэпшымі рукамі вуглем рашалі задачы на белай калмата пагабляванай дошцы. Напішуць, змыюць і так далей...

У чым справа?

— Ня было другой рады: школа ня мела ні дошкі ні крэйды...

Што казаць ужо пра такую раскошу, як глёбусы, мапы, лубкі, бібліотэкі, тэхнічныя прылады: майстэрні, начыньне і шмат іншага.

А працоўная школа ня можа абысьціся без усяго гэтага. У іншым разе, школа ня зможа вучыць працоўным навыкам, ня зможа карыстацца лепшымі, наглязднымі мэтадамі.

Вучань у школе павінен навучыцца ня толькі чытаць і пісаць, як даўней, а і *працаваць*. Адсюль і назва „Працоўная школа". Такая школа рыхтуе не царкоўных папоўскіх падпявалаў, чыноўнікаў, пакорных слуг буржуазіі, а *сьвядомых будаўнікоў новага жыцьця.*



**... такою яна павінна быць—і будзе! у канцы пяцігодкі.**

І вось матар'ял для вучобы патрэбен школе, як чалавеку паветра, як рыбе вада. Трохі аж сорамна адзначаць, што ў нас у сярэднім на адну школьную бібліотэку прыпадае нешта ня больш 25 кніжак.

Бліжэйшая пяцігодка дасьць для абсталяваньня школ многа чаго. Калі цяпер на кожны камплект на школьныя выдаткі дзяржава магла адпусьціць толькі 824 руб., дык да канца пяцігодкі гэта сума для камплекта *вырасьце да 1.387 руб.* у год. Усяго пэўна-ж зрабіць ня ўдасца, але паляпшэньне для першай пяцігодкі будзе значнае.

### Даеш новыя школьныя будынкі.

Хто ня ведае большасьці нашых школьных будынкаў? Простая сялянская хатка, аршын сем з кутка ў куток, з нізенькай стольлю, сьляпымі вакенцамі, яшчэ, чаго добрага, з шыбамі з ануч... Такіх „школ" у нас ня менш сарака процантаў.

А хіба ўжо такія добрыя і „сапраўдныя" школьныя будынкі. Таксама пахваліцца няма чым. Дзеці вучацца ў цеснаце ды цемнаце. А шмат дзе, дык вось-вось і абваліцца могуць гнілыя сьцены.

Усё спадчына праклятага мінулага. Паны дбалі толькі аб сабе, будавалі вялізарныя дарагія палацы, дзе прапівалі ды праядалі народнае дабро. А які ім быў клопат да працоўных мас?

А цяпер вось і разьлічвайся за іх. Аднак упартасьць рабочых і сялян не такія крэпасьці крышыла.

Тысячы новых будынкаў для школ, ужо *сапраўдных школьных будынкаў*, вырасьце ў нашых вёсках і гарадох за пяцігодку. *Больш за 27 мільёнаў рублёў* адпускае дзяржава для школьнага будаваньня,—для пачатковых школ. Гэта ўсё-ж сума не малая.

---

*(Працяг гл. на стар. 8-й.)*

*Алесь Розна*

# У ЛІПНЁВЫ ВЕЧАР

Тыя-ж самыя разьвесістыя ліпы,
Той-жа самы ускудлачаны наш
сад.
Нават той-жа самы сьвежы ліпень
Што і роўна дзевяць год назад.
Уся прырода ў тым-жа самым
цьвеце,
І трава, і кветкі, і лісты.
Але стала ўсё інакш на сьвеце.
Край мой, край, ці гэта ты?!
Дзевяць год назад у гэты дзень
Горкім плачам поўніліся грудзі...
Горка, цяжка мне было глядзець,
Як у гэты дзень стагналі людзі.
Помню: гэта ўвечары было.
Надыйшлі белапалякі.
Хто на конях,
Хто і пехатой...
Пахавалася па хатах вёска.
Пад крывавай белаю рукой
Застагналі нівы і палоскі.
Не схаваўся ў гэты дзень Тамаш...
Уляцелі... Дзьверы расчынілі...
— Комуністы ёсьць?
— Дальбо няма!?
Але ўсё-ж яны яго забілі...
На падлогу ён тады упаў,
Кроў ад раны палілася стужкай.
На канях атрад далей лятаў
Рабаваць сялян...
У шумнай пушчы
Сабралася хлопцаў грамада,
Вогнішча мігціцца і палае...
Сабраліся, каб жыцьцё аддаць
За жыцьцё сваёй зямлі і краю.
Тут таксама быў Тамашоў сын,—
Малады і радасны Рыгорка,
За сваю зямлю і каласы
Галаву аддаць яму ня горка.
Раніцою сонейка ўзышло
Над прасторам шумнае дубровы.
Па дарозе, за сваім сялом
Хлопцы склалі буйныя галовы...
І Адзін Рыгор, адзін, адзін
Пасярод усіх жывым застаўся.
Пагубіўшы ўсіх, сялянскі сын
Зноў да хаты бацькавай вяртаўся.
Што-ж сустрэў ён?..
Плакала рака...
Не стаяў ніхто цяпер на ганку...
І далёка недзе уцякаць
Кінуліся белыя хурманкі.
Вёска ў вогнішчы уся была,
Лёгкі ветрык зноўку мерыў далі,
Бабы з дагараўшага сяла
Горкімі сьлязамі зямлю абсыпалі.
Быў гарачы поўдзень. Стрэхі хат
Паддаліся полымю, ня меўшы
сілы.
Двое стройных, маладых дзяўчат
Над памёршым бацькам галасілі...
Усюды песьня чулася адна...
Над сваім забітым мёртвым сынам
Плакала ад ночы да відна
Бедная і хмурая жанчына.
Сьлёзы ліў разбураны наш край
І Рыгорка доўга, доўга плакаў.
Гэткая была тады пара—
Чорная пара белапалякаў.

* * *

Так было калісьці... І назад
Гэткім дням ніколі не вярнуцца!
Будзем мы краіну будаваць,
Будзем мы да лепшага імкнуцца!

НА ПАСЬВІШЧЫ



Мал. А. ТЫЧЫНЫ з сэрыі „Бел. вёска".

## Беднату—у сярэднюю школу!

Сярэдняя школа—5—7 і 8—9 гады навучаньня—дагэтуль у нас слаба пашырана. Толькі 15% падросткаў вучыцца ў сярэднявй школе. У некаторых перадавых краінах, як Нямеччына, амаль усе канчаюць сярэднюю школу. Так яно павінна быць і ў нас. Прыдзе час, калі кожны чалавек *павінен* будзе скончыць сярэднюю школу. Будзе выданы такі закон. У такім абавязковым парадку ўжо цяпер у нас *кожны павінен скончыць пачатковую школу.*

Чаму-ж бы нам цяпер, адным махам, ня ўвесьці абавязковага навучаньня ў межах хоць-бы сямігодкі?

Пакуль што гэтага зрабіць нельга: ня хопіць у нас і школ, і настаўнікаў, і грошай. Усё будзе разьвівацца паступова і па чарзе.

Аднак, ня так і многа патрэбна будзе пяцігодак да аўладаньня усімі сярэдняй асьветай.

Дзеці бедняты радзей пападаюць у сярэднюю школу. Гэта таму, што няма за кім і няма ад каго, як кажуць, вучыцца. Такую бяду трэба перамагчы. Трэба, каб наша сярэдняя школа вучыла ў пераважнасьці дзяцей самых бедных пластоў гораду і вёскі.

Дзяржава зноў-такі клапоціцца аб бедных вучнях. Аб гэтым красамоўна гаворыць хоць-бы такое параўнаньне: калі агульны лік вучняў сярэдняй школы за пяцігодку павялічыцца на 43%, дык выдаткі адпаведна павялічацца да 200%.

І ўсё гэта не фантастычнае апавяданьне, а самая рэальная праўда. І не дзесяткі гадоў трэба чакаць гэтай праўды, а толькі адно пяцігодзьдзе.

Урэшце, цікавым зьяўляецца і тое, што к канцу пяцігодкі мы ня будзем мець няпісьменных рабочых і сялян сярэдняга веку.

Так будзе разьвівацца школьная асьвета ў краіне, дзе жыцьцём кіруюць працоўныя масы, у краіне, дзе шпарка будуецца соцыялізм.

# НАМ НЕ ДАПАМАГЛІ

*ЗЬЛЁТ У КАПЫЛІ*

Трэба сказаць, што Райвыканком і Райком КП(б) ня досыць уважліва аднесьліся да нашага зьлёту, не адпусьцілі на яго правядзеньне ніякіх сродкаў, не памаглі стварыць належнай грамадзкай думкі ў падрыхтоўцы да зьлёту.

Са свайго боку атрады рыхталіся да зьлёту каля месяца. Да зьлёту ўсе атрады прысылалі свае насьценгазэты, а таксама дзеньнікі і пляны працы, з якіх было відаць, што зрабіў кожны атрад у паходзе за ўраджай і пераходзе на новую сыстэму працы.

Як недахоп трэба адзначыць адсутнасьць удзелу ў зьлёце комсамольскіх ячэек Капыльшчыны. Ня гледзячы на гэта, на зьлёт зьявілася звыш 1000 чалавек, з якіх 860 піонэраў, астатнія—неорганізаваныя дзеці.

Уся праца зьлёту адбывалася ў лесе на раней падрыхтаваным і ўпрыгожаным месцы.

Старшыня Райбюро зрабіў даклад аб становішчы раённай піонэрскай організацыі і задачах на летні час. Мастацкая частка, якая была пастаўлена пасьля дакладу, была падрыхтавана выключна вясковымі атрадамі і адбівала іх вопыт працы.

Далей быў наладжан для ўсіх удзельнікаў зьлёту колектыўны абед. Пасьля абеду і кароткага перапынку быў працяг дзелавой часткі—даклад аб інтэрнацыянальным выхаваньні.

Перад заканчэньнем зьлёту адбылася выдача прэмій атрадам за лепшыя насьценгазэты. Першую прэмію—барабан—атрымаў Атанаўскі атрад, другую прэмію—бібліотэку—Цімкавіцкі і інш. На Ўсебеларускі зьлёт выбралі чатырох піонэраў.

Недахоп сродкаў не дазволіў Райбюро працягнуць зьлёт некалькі дзён, прымусіў яго абмежаваць адным днём. А шкада: дэлегаты не пасьпелі выказацца па дакладах, пагаварыць аб сваёй працы і вопыце. Увага грамадзкіх арганізацый Капыльшчыны, у тым ліку і комсамол, да піонэраў паслабла, яе трэба ўзмацніць,—вось вывад, які напрашваецца сам сабой.

*Дэлегат.*

# ПРА СВАЮ ЧАСОПІСЬ ЗАБЫЛІСЯ

*ЗЬЛЁТ У ПУХАВІЧАХ*

Тры тыдні рыхтавалася Пухавіцкая піонэрская організацыя да свайго раённага зьлёту. Зьбіралі па ўстановах грошы на правядзеньне зьлёту, рыхтавалі выстаўку дзіцячых прац і мастацкія выступленьні.

Піонэры не маглі дачакацца таго часу, калі можна будзе сабрацца на зьлёт, абмяняцца вопытам працы атрадаў, пачуць ацэнку працы кожнага з іх.

Вось, нарэшце, настаў доўгачаканы дзень. На ўрачыстае адчыненьне зьлёту сабралася 457 дэлегатаў і шмат неорганізаванай дзетвары. Былі заслуханы прывітаньні ад райкому КП(б), РК ЛКСМБ, РВК і інш. Сіламі піонэраў быў пастаўлен канцэрт.

Дзелавая праца зьлёту распачалася ў наступны дзень. Зранку адбылася шматлюдная дзіцячая дэмонстрацыя, а ўдзень усе дэлегаты слухалі даклады: 1) Аб міжнародным дзіцячым руху. 2) Удзел організацыі ў політычных кампаніях. 3) Аб культмасавай працы ўлетку. 4) Праца сярод батрачак.

Па ўсіх гэтых дакладах разгарнуліся актыўныя спрэчкі. Была таксама інфармацыя Райбюро ЮП аб падпісцы на дзіцячы друк, але дакладчык па гэтаму пытаньню чамусьці гаварыў аб тым, што трэба падпісвацца толькі на „Пионерскую правду“. А дзе „Беларускі піонэр“, „Чырвоная Зьмена“ і іншыя дзіцячыя і юнацкія выданьні? Аб іх чамусьці ня ўспомнілі.

Вось чаму няма нічога дзіўнага ў тым, што па Пухавіцкаму раёну ёсьць зусім мізэрны лік падпішчыкаў на „Бел. Піон.“ Райбюро ЮП павінна будзе зьвярнуць на гэта ўвагу і дабіцца павялічэньня падпіскі на часопісь.

Пастановы зьлёту ў асноўным зводзяцца да наступнага:

— Узмацніць удзел атрадаў у паходзе за ўраджай, шляхам працы на паказальных вучастках і агародах, дапамогі комсамольскімі ячэйкамі і сельсаветамі ва ўсіх правадзімых імі агранамічных мерапрыемствах.

— Перайсьці організацыі на новую сыстэму працы, праводзіць летам культмасавую работу сярод дзетвары шляхам экскурсій, заняткаў на вольным паветры, фізкультуры і інш.

— Сачыць за тым, каб батракі піонэрскага ўзросту, якіх ёсьць шмат па нашаму раёну, не эксплёатаваліся з боку кулакоў.

— Павялічыць вярбоўку ў атрады неорганізаванай дзетвары.

*Удзельнік.*

*АДПАЧЫНАК НА ПОЛІ*




*Мал. А, ТЫЧАНЫ з сэрыі „Бел. вёска“.*

**Р. Акульшын**

# Спазьніліся

## П'ЕСА Ў ДВУХ ДЗЕЯХ



**УДЗЕЛЬНІКІ:**

**Уладзя**
**Рыгорка**
**Сымонка**
**Хведарка**
**Пятруська**
**Проська**
**Янка**
**Аўдолька**
**Марылька**
**Біляцёр—стары чалавек**
**Васільлеў—сакратар ячэйкі КСМ**
**Піонэры, сяляне.**

*Дзея адбываецца летам у вёсцы.*

### ДЗЕЯ ПЕРШАЯ

*Лес, кусты. Летні вечар. Сцэна пустая. За сцэнай трывожныя дзіцячыя галасы.*

**Галасы**—Гэй-эй!.. Ня туды пашоў, вярніся... У балота трапіш!

**Голас здалёку**—Зблудзіў. Дзе тут дарога?

**Голас Уладзіка**—Я казаў, што нічога ня будзе, ідзі сюды. Мы тут цябе чакаем. (Выходзіць на сцэну).

Гэй, хутчэй сюды ўсе! Тут палянка і сьцежка здаецца знашлася. (Нагнуўся і прыглядаецца на дарогу). Так, так... Гэта дарога, цяпер хутка дойдзем. Ну, дзе вы там забавіліся?

**Галасы**—Грышку чакаем.

**Уладзя**—Назьбіралі каго ні папала, а цяпер пакутуй праз іх. Чаго добрага яшчэ на спэктакль спозьнімся. Трэба было б раней ісьці. Біць заўтра, напэўна, будуць—гэта ўжо, як пяць у пяць. Мяне дык біць ня будуць, а Аўдольцы з Марылькай дадуць!

**Галасы**—Ідзем.

**Уладзя**—То-ж то.

**Усе ўбягаюць. Рыгорка адыхваецца, іншыя сьмяюцца над ім.**

**Уладзя**—А выстаўляўся яшчэ: „Ведаю, ведаю самую блізкую дарогу"...

**Рыгорка**—От і знаю, толькі яна травою зарасла. Тым летам, як з мамаю на кірмаш езьдзілі, дык у гэтым самым месцы дарога была.

**Уладзя** — Куды-ж гэта ты пацягнуўся? Дарога-ж вось тут.

**Рыгорка** — Дарога? Праўда...

**Усе**—Но але.

**Рыгорка**—Я трошкі забыўся.

**Усе**—Ха-ха-ха! Ну дык і памяць-жа ў цябе, карацей, чым у таракана нос.

**Аўдолька**—Ой, бліскавіца засьвяціла (хрысьціцца).

**Уладзя**—На што ты хрысьцішся?

**Аўдолька**—Баюся, каб Ільля громам не забіў.

**Уладзя**—Ну, і дурная-ж ты.

**Грыміць гром.**

**Аўдолька**—Пасьмейся, пасьмейся. Вось табе Ільля-прарок, як трэсьне па ілбе і рот памялом заткне.

**Уладзя**—Ха-ха-ха!.. Ці-ж Ільля на небе камінарам служыць?

**Хведзька**—Куды мы цяпер пойдзем? Бачыце хмара якая надыходзіць? Ой, зноў бліснула!

**Уладзя**—Ідзеце сюды... Дзяўчаткі лезьце пад куст. Пад высокія дрэвы станавіцца ня можна, бо можа забіць.

**Аўдолька**—Што? Забіць? А сам сьмяяўся?

**Уладзя**—Дык ня Ільля-ж заб'е.

**Усе**—А хто?

**Уладзя**—Электрычнасьць!

**Пятруська**—Ляктрычнасьць? Што гэта ты вярзеш? Тата гаварыў—ляктрычнасьць па гарадох у лямпы наліваюць заместа газы.

**Уладзя**—Нічога вы ня ведаеце. Вось будзеце вучыцца, тады пакінеце ўсякім глупствам верыць.

**Гром, вецер, у лесе шум.**

**Аўдолька і Марылька**—Ой, мамачка, страх які!

**Пятруська**—Да Рудні, татка казаў, вёрстаў з восем будзе. Я думаю вёрстаў сем мы ўжо прашлі.

**Проська**—Вельмі ты спрытны — сем. Хаця, каб пяць, дык і то добра было-б.

**Пятруська**—Калі-ж мы прыдзем?

**Уладзя** (глядзіць на неба)—Прыдзем... Вось хмара пройдзе і пойдзем. Цяпер будзе гадзін шэсьць, а спэктакль раней дванаццаці не пачнецца.

**Марылька**—У дванаццаць гадзін пеўні тры разы кукарэкаюць. Тады ўсе людзі сьпяць, як пшаніцу прадаўшы.

**Уладзя**—Сьпяць толькі несьвядомыя элементы.

**Пятруська**—Сам ты атлюмэнта!

**Дзяўчаткі**—Не дражнецеся!

**Янка**—А што такое атлюмэнта?

**Проська**—Атлюмэнта—бесталковая дубіна, па-мойму.

**Уладзя**—Нічога вы ня ведаеце... Калі старшыня Пятровіч прамову гаворыць, дык заўсёды кажа так: „несьвядомая элемэнта".

**Марылька**—Ой, мне за кашулю кропля дажджу папала!..

**Хведарка**—Не растанеш.

**Рыгорка**—З вамі, дзяўчаткамі, заўсёды клопату набярэшся. Самі напрасіліся на пакуту нам. Ніхто вас не цягнуў сілаю.

**Пятруська**—Ну, але, не цягнуў... Сказалі: скора зойдзем.

**Рыгорка**—А ты ня ведаеш колькі вёрст да Рудні? Гэта табе не да якой-небудзь там суседкі схадзіць. Восем вёрст ні хаханькі.

**Пятруська**—Дзяўчаткі, давайце назад вернемся. З надакучлівымі няма чаго бяз дай патрэбы хадзіць, валэндацца.

**Уладзя**—Ідзі, ідзі... Маці порткі з цябе зьніме, на парог цябе пакладзе і пачне лупцаваць, прыгаворваючы: „вось табе валацуга, вось табе спіктакльшчык".

**Пятруська**—А калі заўтра прыдзем, лупцоўка яшчэ большая будзе.

**Усе**—Правільна.

**Уладзя**—Дурні вы, заўтра мы зьявімся ўсе разам і голасна скажам: „От і мы!" Паспрабуйце толькі крануць нас пальцам".

**Марылька**—Мама пальцам ніколі ня б'ецца. Яна калі б'е, дык усёю далоньню.

**Рыгорка**—Ня лясьне!

**Проська** — Дождж, здаецца, сьціхае, трэба ісьці...

**Рыгорка**—А па-мойму раней трэба ўзьлесьці на дрэва ды паглядзець, ці ня віднеецца дзе-небудзь які агоньчык.

**Усе**—Правільна, верна... Я... Я палезу...

**Рыгорка**—Я першы здагадаўся, дык я і палезу.

**Уладзя**—Глядзі-ж ня грымніся толькі.

**Рыгорка**—Падсадзеце мяне, а то зьнізу сучкоў няма.

**Усе падсаджваюць Рыгорку, ён лезе на дрэва, але, пасьлізнуўшыся, кідаецца.**

**Усе**—Эх, ты, ня спрытны які! Дарогу пашоў шукаць—зблудзіў, на дрэва палез—грымнуўся.

**Рыгорка** (фыркаючы і абціраючыся)—Затое ў мяне будзе прахціка.

**Уладзя**—Пусьцеце!

**Усе**—Цябе падсадзіць?

**Уладзя**—Ня трэба. Раз, два, тры! (Хапаецца за ствол) от як трэба!

**З дрэва ляцяць пырскі. Усе ўздрыгваюць.**

**Аўдолька**—Якія халодныя кроплі!

**Сымонка**—Ня скінься, як Грышка!

**Уладзя**—Я то ня скінуся.

**Усе**—Ну, відаць што?

**Уладзя**—Відаць.

**Усе**—Што ты бачыш там?

**Уладзя**—Ганьня ваўкоў бегае.

**Дзяўчаткі**—Ой!

**Аўдолька**—У мяне валасы ад спалоху растуць.

**Уладзя**—Я сумысьля.

**Усе**—Ух, каб цябе, каб цябе, напалохаў так.

**Уладзя**—Вунь там відаць нейкія агоньчыкі.

**Рыгорка** (чухае бок)—У воўчых вачох таксама бывае сьвецяцца агоньчыкі. Ты не памыліўся?

**Уладзя**—Наўперад робяць нешта падобнае на мост. Завецца гэта сцэнай. А на сцэне становяць дом, а тады ўжо лес, ды толькі не сапраўдны. А глядзіш на яго, дык здаецца перад табою сапраўды лес. Ну, паробяць вусы з шэрсьці, прыклеяць бараду цестам...

**Дзяўчаткі**—Ай-ёй, як цікава!

**Уладзя**—Не перашкаджайце! І выходзяць... І пачынаюць арацельстваваць. А бабы і мужчыны ў далоні ляскаць.

**Рыгорка**—Хадзем скарэй ды ўбачым самі.

**Уладзя**—Цяпер мы ўжо ня зблудзім з дарогі. Ну, пашлі... Не. Пачакайце хвілінку, раса вельмі вялікая. Хто абуўшыся—разувайцеся, а то ўвесь абутак папсуецца.

**Чацьвёра разуваюцца, астатнія босыя.**

**Уладзя**—А каб ваўкі нас баяліся, дык давайце песьню сьпяваць.

**Усе**—Якую?

**Уладзя**—Усё роўна, хоць якую... Давайце „У піонэрскі клюб мяне правадзілі“... і т. д.

**З песьняю выходзяць са сцэны. Вельмі далёка грыміць гром. У кустох пачынае пяяць салавей.**




**Уладзя**—Пад носам таксама бывае соплі сьвецяцца.

**Рыгорка**—У каго?

**Уладзя**—У цябе.

**Рыгорка** (выцірае нос)—Ніколі ў мяне ня сьвеціцца пад носам, а за ману я засьвячу яму, так што ён дзесятаму закажа.

**Янка**—Будзеш біцца, дык у возера ўкінем.

**Усе**—Злазь хутчэй ды пойдзем, а то спозьнімся на спэктакль.

**Марылька**—Я ніколі ня бачыла спэктаклю. Мама сказала елку цукеркамі ўпрыгожваюць.

**Уладзя** (сскочыўшы)—Елка—адно, а спэктакль—зусім другое.

**Марылька**—А што на спэктаклях робяць?

## ДЗЕЯ ДРУГАЯ

*Сені вясковага клюбу. Проста—дзьверы ў клюб. Там ідзе спэктакль. Над дзьвярыма гарыць лямпа. Цераз сьцену чутны неразборчывыя галасы. Каля дзьвярэй стаіць біляцёр.*

**Біляцёр**—А час ужо позьні. (За сцэнай б'е гадзіньнік) Раз, два, тры, чатыры, пяць, шэсьць, сем, восем, дзевяць, дзесяць, адзінаццаць, дванаццаць! Эге!.. Поўнач, значыцца. Ну, ужо мусіць скора ўсё скончыцца. (Адчыняе чуць дзьверы). Ух, якое там цяжкае паветра. А народу—біткам набіта, зярняці няма дзе ўпасьці. І спрытна-ж як паказваюць. Малайцы!.. От табе і маладыя, а падатруць нос каму хочаш! (За дзьвярыма налева галасы: сюды, сюды). Каго гэта яшчэ нясе на самы канец? (Уваходзяць дзеці, у чацьвярых у руках чаравікі). Вы адкуль?

**Уладзя** — З Руткова, на спэктакль прышлі.

**Біляцёр**—На спэктакль? Ха-ха-ха!.. Ну і дзіўныя-ж вы... Ды толькі вось што я вам скажу: каб папасьці на спэктакль, дык трэба мець білеты—раз, для таго, каб былі білеты—трэба мець грошы—два, А ў вас яны ёсьць?

**Усе**—Няма.

**Біляцёр**—От у тым то і справа! А каб і былі, дык білетаў ужо няма, бо ўсе прададзены—тры. Ды спэктакль хутка скончыцца—чатыры.

**Уладзя**—Таварыш, мы прышлі пяшком за восем вёрст, прамерзьлі, змоклі ад дажджу, змарыліся. Калі ты нас ня ўпусьціш, дык будзеш несьвядомы...

**Усе**—Атлюмэнта.

**Уладзя** (папраўляючы)—Элемэнта...

**Біляцёр**—Як? Бач ты іх, што яны ведаюць.

**Аўдолька**—Дзядзечка, ня будзьце такія скупыя.

**Біляцёр**—Я-ж сказаў вам, што тут поўна людзей: зерняці нават няма дзе ўпасьці. Куды я вас пушчу? Як вы там утоўпіцеся?

**Рыгорка**—Дзядзечка, ты ў нашым Руткове быў калі?

**Біляцёр**—А як-жа? Быў ня так даўно.

**Рыгорка**—Ці не да Рыгоравых у госьці прыяжджалі?

**Біляцёр**—Во-во!

**Рыгорка**—Яны табе паклоны перасылалі ды прасілі зноў прыехаць.

**Біляцёр**—Дзякую. Добрыя, далікатныя людзі.

**Рыгорка спрабуе пралезьці ў дзьверы.**

**Біляцёр** (хапаючы яго за каўнер)—Ты, хлапчанё, зубы загаворвай, але ня жульнічай толькі.

**Уладзя**—Пра што там паказваюць?

**Біляцёр**—Пра ўсё. Раней пра таварыша Леніна гаварылі, а пасьля пачалі паказваць, як рабочыя рэвалюцыю рабілі ў 1905 годзе.

**Уладзя**—Дзядзечка, ты ведаеш казку пра Леніна?

**Біляцёр**—Не, ня чуў.

**Уладзя**—Хочаш, дык раскажу.

**Біляцёр**—Кажы, усё роўна няма чаго рабіць.

**Уладзя** (пачынае казку пра Леніна, біляцёр так захапляецца ёю, што не заўважвае, як дзеці адно за адным праціскаюцца ў клюб). Вось з поўначы знаходзіцца Белае мора, халоднае вельмі, а з

поўдня—Чорнае мора—цёплае. З усходу—горы, а з захаду—лагчыны, а ў самай сярэдзіне знаходзіцца Масква.

**Біляцёр**—Так-так.

**Уладзя**—А ў Маскве жыве Ленін.

**Біляцёр**—Ленін даўно памёр. Пра гэта сёньня ўспаміналі.

**Рыгорка праціскаецца ў залю.**

**Уладзя**—Дык гэта-ж казка!

**Біляцёр**—Ну, добра, тады кажы.

**Уладзя**—Галава ў Леніна ясная, як сонца.

**У дзьверы праскоквае Хведзька.**

**Біляцёр**—Лысая, дык і ясная.

**Уладзя**—Залез ён на высокі будынак, глядзіць ва ўсе бакі, прыглядаецца, ці няма дзе-небудзь ворагаў, а ў руках ён трымае пісталеты сталёвыя.

**Пралазіць Аўдолька.**

**Біляцёр**—Вартуе, значыць, Маскву?

**Уладзя**—Вось тады ў акіянах вада захвалявалася, а ворагі толькі зубамі скрыгацяць.

**Пралазіць Сымонка.**

Французы-тонкапузы, ангельцы-пякельцы, і белыя, і чорныя, і жоўтыя, і бурыя, і сінія, увесь зброд, усё паскудзтва, усе падлізы буржуазныя—усё заварушылася.

**Пралазяць Проська і Янка.**

**Біляцёр**—Брыдота!

**Уладзя**—Хацелася ім Расію праглынуць, хацелася зноў цара на шыю пасадзіць працоўным, хацелася ім кроў сялянскую піць.

**Біляцёр**—Не, так ня будзе, аб'ядуцца, гадаўё!

**Пралазіць Пятруська.**

**Уладзя**—А Ленін, як падмiргне, ды з ляворвартаў як пальне, а войска чырвонае, савецкае як крыкне, як гукне, дык ніхто з ворагаў ня пісьне.

**Пралазіць Марылька.**

**Біляцёр**—Спрытна. Так ім і трэба... Малайчына! Дзе ты гэту казку адшукаў?

**Уладзя**—От адшукаў. Ну, а цяпер пусьці мяне!

**Біляцёр** (аглядваецца вакол, сьмяецца)—Ах, які-ж ты штукар, замовіў мне зубы, а я і рот разьзявіў. Ну, нічога з табой не паробіш, ідзі, аднаму месца неяк знойдзецца.

**Уладзя хоча ісьці ў залю, але адчыняюцца дзьверы, адтуль чутны аплёдысмэнты.**

**Біляцёр**—Скончылася ўсё, спазьніўся.

**Выходзяць таварышы Уладзі, мужчыны і бабы:**

**Рыгорка**—Толькі канец чулі, а бачыць нічога ня бачылі. Мужчыны высокія засланілі ўсё.

**Уладзя**—А я дык і ня чуў нічога.

**Бабы**—Што гэта за дзетвара тут такая?

**Біляцёр** (зьвяртаючыся да сакратара ячэйкі)—Таварыш Васільлеў, дайце прытулак для гэтых хлопцаў. За восем вёрст на спэктакль прышлі.

**Васільлеў**—За восем вёрст?

**Уладзя**—Так, мы з Руткова. Спатайка ад бацькоў уцяклі.

**Васільлеў**—Ах, якія вы гэроі! Малайцы адным словам. Вітаць вас трэба за гэта!

**Біляцёр**—Раней пакарміць іх трэба.

**Васільлеў**—Так, так. Вы даўно з дому?

**Рыгорка**—Завідна вышлі.

**Васільлеў**—Завідна?

**Уладзя**—З дарогі зьбіліся ды чакалі, пакуль дождж перасьціхне. Дзяўчаткі нашы вельмі нажахаліся.

**Васільлеў** (круцячы галавою)—Ай-ай-ай!! (крычыць праз адчыненыя дзьверы)—Піонэры, хутчэй выходзьце!

**Піонэры выбягаюць.**

**Васільлеў**—Хутчэй дастаньце яды для сваіх таварышоў.

**Піонэры**—Гэта мы хутка, раз-два.

**Уладзя**—А дзе мы будзем начаваць?

**Васільлеў**—Пра гэта ня турбуйцеся.

**Уладзя**—А другі раз будуць прадстаўленьне рабіць?

**Васільлеў**—Будуць, але толькі ня сёньня, а праз тыдзень.

**Рыгорка**—Тады мы раней выйдзем з дому.

**Васільлеў**—Не. Тады мы ўжо коні прышлем па вас. (Зварочваецца да публікі). Паглядзеце на гэтых сьмелых уцекачоў. Ноччу, ня ведаючы дарогі, яны пашлі за восем вёрст на спэктакль. Не баючыся ваўкоў, пагрозы матак, яны ішлі, спадзяючыся ўбачыць цікавае прадстаўленьне. Яны спазьніліся. Але гэта няважна. Ні іх адвага, ні іх гэройства ад гэтага не памяншаецца.

**Уладзя**—Дрэнна толькі, што мы ня бачылі, як рэволюцыю на спэктаклі прадстаўляюць.

**Васільлеў**—Пабачыце яшчэ і навучыцеся рабіць рэволюцыю не на спэктаклі, а ў жыцьці!

**Біляцёр**—А казку яны якую ведаюць!

**Васільлеў**—Казку? Мы іх навучым ня казкамі займацца, а праўду разумець, каб яны самі пасьля былі будаўнікамі праўды.

**Піонэры** (убегшы)—Настаўнік Пятро Іванавіч кліча ўсіх да сябе, яго самавар настаўляюць і яешню рыхтуюць.

**Васільлеў**—Вось і добра! Ну, піонэры, у гонар сьмелых таварышоў засьпявайце,

Піонэры (пяюць якую-небудзь піонэрскую песьню).

Пераклад з расійскай мовы.

**Ал. П—скі.**

# ГУРТОК У ПАХОДАХ

Наш гурток юных натуралістых існуе пры Цэнтральным Піонэрскім клюбе. Ён быў організованы па ініцыятыве саміх піонэраў. Гурток працуе ўжо чатыры месяцы. У гуртку займаецца сем чалавек.

За гэты час мы езьдзілі ў Ізяслаўль, дзе азнаёміліся з мясцовай прамысловасьцю, з піонэрамі і ўсім жыцьцём гораду.

Потым мы зрабілі выхад у вёску Каралішчавічы, дзе правялі з вясковымі дзецьмі Міжнародны Дзіцячы Тыдзень. Там-жа мы паднесьлі вясковым дзецям невялічкую бібліотэчку ад імя ЦПК.

Нашы турыстыя езьдзілі на Асінстрой.

Апошні наш паход—гэта экскурсія ў Бабруйск. Частка Менскіх піонэраў выехала ў Бабруйск на цягніку. Сябры нашага гуртка толькі палавіну дарогі ехалі цягнікам, а рэшту—ішлі пехатою. Нам было вызначана прайсьці 54 вярсты за два дні. Але мы гэту дарогу прайшлі і за адзін дзень. Вышлі ў чатыры гадзіны раніцы з станцыі Асіповічы. Ішлі па чыгуначным шляху.



*Турыстыя на адпачынку.*

У Бабруйск мы прышлі ў 8½ гадзін увечары.

У Бабруйску мы правадзілі час разам з рэштай піонэраў-эксурсантаў.

Чарговы паход наш будзе ў Барысаў, потым мяркуем абыйсьці некаторыя піонэрскія лягеры для таго, каб перанесьці вопыт работы з аднаго лягера ў другі.

Думаем нават зрабіць паход у Смаленск, калі знойдзем для гэтага патрэбныя сродкі.

Турыстыя: **Аксэльрод, Юдовіч.**

# Узбраеньне ў жывёл, расьлін і ў чалавека

*Нарыс А. ПОЛЯКА*

Паміж жывой і ня жывой прыродай ёсьць цесная сувязь. Бяз глебы, вільгаці, паветра і цяплыні ня могуць існаваць расьліны. Без расьлін-жа ня могуць існаваць жывёлы, а таксама і чалавек.

Чалавек ёсьць жывёла. Ён спажывае расьлінную і жывёльную страву. Чалавек і жывёлы непасрэдна з зямлі ніякай стравы ўзяць ня здольны, апрача адной кухоннай солі.



*Сталёвае адзеньне ў даўнейшага ваякі.*

Расьліны-ж могуць здабываць сабе страву з зямлі. У сваім арганізьме яны перарабляюць яе ў такі стан, што яна потым можа быць скарыстана, як спажыўная матэрыя жывёламі і чалавекам.

Паміж асобнымі расьлінамі адбываецца вечная барацьба за сьвятло, за вільгаць, за паветра і за глебу. Гэту барацьбу можна яскрава назіраць у расьлінных згуртаваньнях, прыкладам якіх можа зьяўляцца лес, балота і поплаў.

Такая-ж барацьба адбываецца паміж асобнымі жывёламі. Адны жывёлы зьяўляюцца спажывай для другіх, а таму прырода, як прыхільная матка, надала першым і апошнім некаторыя здольнасьці для змаганьня з сваімі ворагамі.

А таксама адбываецца вечная барацьба паміж жывёламі, расьлінамі і чалавекам. Гэта барацьба для нас стала звычайнай зьявай, а таму мы часта не зьвяртаем на яе ўвагі.

Прыгледзьмася больш уважліва да гэтай барацьбы і мы знойдзем для сябе шмат чаго цікавага і карыснага.

Чалавек з даўніх часоў назіраў зброю ў расьлін і жывёл і скарыстаў гэта дзеля сваіх патрэб, а галоўным чынам, дзеля патрэб вайны.

Усе вы бачылі калючы дрот, з якога ў час вайны робяцца калючыя драцяныя загародкі.

Лёгка дагадацца аб тым, як вынайшлі гэты сродак абароны.

Вам, мусіць, не адзін раз даводзілася зьбіраць ягады з агрэсту ці плады з дзікай грушы і, вы напэўна бачылі і нават адчувалі штосьці падобнае на гэты калючы дрот.

Такія самыя калючкі мы сустракаем у асоце, баярышніку, маліне, чартапалосе, крапіве і інш.

Крапіва, апрача гэтых калючак, мае яшчэ і атруту, якая пападае ў наша цела і ўтварае няпрыемнае пачуцьцё.

Атруту маюць некаторыя і жывёлы, напрыклад: гадзюка, пчала, аса, чмель, мурашкі, некаторыя павукі і інш.

Прыпамятуйце, якія крокі прымаў наш продак, славянін, у барацьбе з сваімі ворагамі. Ён намачваў наканечнікі стрэл атрутай, каб хутчэй перамагчы ворага.

Тут таксама можна ўпэўнена сказаць, што і гэты сродак запазычыў ён ад вышэй памянёных жывёл.

Славянін любіў падсьцерагаць свайго ворага, схаваўшыся дзенебудзь у няпрыкметным месцы і зьнянацку нападаць на яго. Прыпамятуйце, як кот ловіць мышэй і птушак, і вы зараз-жа ўпэўнена скажаце ад каго чалавек запазычыў гэту звычку.

Зірнеце на льва, які прытуліўся да чароту ці да каменя пустыні, якая ўбрана ў жоўты колер, і вам цяжка будзе заўважыць гэтага страшнага драпежніка. Паміж нашымі жывёламі вы самі зможаце знайсьці цэлыя сотні прыкладаў абарончай ахварбоўкі, дзе жывёла прымае колер тэй мясцовасьці, на якой яна жыве.

Вось вам усім знаёмы зайчык-бяляк. Ён зімой бывае белага колеру, падрабляючыся пад колер сьнегу, а летам—рыжавата-шэры.

Вам знаём колер узбраеньня і вопраткі арміі ў час вайны. І тут маем магчымасьць упэўнена сказаць, ад каго гэта запазычана чалавекам.

На малюнках гісторыі старажытных народаў вы бачылі сьценаразбуральныя прылады, якія іншы раз упрыгожваліся рагамі быкоў. Прылада гэта надта проста была пабудавана. Тут мы бачым тоўстае бервяно, падвешанае на вяроўках. Бервяно гэта ў раўналежным да зямлі стане гойдалася з боку ў бок, супроць сьцяны гораду ці крэпасьці і з кожным хістаньнем моцна білася адным канцом аб сьцяну. Сама прылада нагадвае нам штосьці падобнае на дзейнасьць быка ці барана, нападаючага на ворага, а рогі, якімі ўпрыгожвалася гэтае бервяно, яшчэ больш упэўніваюць нас у тым, што чалавек запазычыў гэту прыладу ад жывёлы.

Зірнеце зараз на іклы дзікоў ці звычайных кныроў, на біўні сланя і вам ня цяжка будзе здагадацца адкуль запазычыў чалавек кінжал, шаблю, піку і г. д.

Некаторым жывёлам прырода дала здольнасьць ратаваць сваё жыцьцё ўцекам.

Вам усім знаёмы гэтыя жывёлы. Прыпамятуйце іх. Пры гэтым прымеце пад увагу і птушак.

Вы ўжо здагадаліся, што ад гэтых жывёл запазычаў чалавек дзеля патрэб вайны. Некаторых спрытных бягуноў, як напрыклад, каня, чалавек непасрэдна скарыстоўвае ў час вайны, а па прынцыпу хуткасьці лёту птушак былі пабудаваны розныя прылады: самалёты, аўтамабілі, цягнікі і інш. Ня буду падрабязна гаварыць аб выгодах хуткага руху ў час вайны, бо гэта вам і так зразумела.



*Броняносец.*

Для вялікай колькасьці жывёл прырода стварыла іншыя сродкі

абароны. Яна пакрыла цела гэтых жывёл панцырам з рагавой ці касьцяной матэрыі. Часта на панцырах ёсьць розныя калючкі. Прыкладам могуць служыць: вожык, браняносец, чарапаха, некаторыя рыбы і інш.

Многім з вас прыходзілася бываць у гістарычных музэях і вы там бачылі падобныя панцыры сярэднявяковых рыцараў. Панцыры гэтыя зроблены з жалеза ці сталі. Яны па сваёй будове маюць надта вялікае падабенства да панцыраў некаторых сучасных жывёл.

Праўда, цяпер, пры існаваньні огнястрэльнай зброі, панцыры рыцараў страцілі сваю ролю, але ў той час яны мелі вялікае значэньне. Зараз-жа ідэя панцыра захавалася пры пабудове шчытоў для гармат, бранявых вежаў і браняносцаў. Затое сучасны блíндзіраваны аўтамабіль зусім нагадвае сабой чарапаху, а бліндзіраваны цягнік—пакрытага панцырам кракадзіла.



*Чарапаха.*

Вось колькіназіраньняў, энэргіі, працы, сродкаў, часу палажыў чалавек на тое, каб як мага лепш узброіць сябе для змаганьня з жывёламі і абараніць сябе ад ворагаў на вайне.

Уся бяда ў тым, што да гэтага часу рабочыя і сяляне ўсяго сьвету кепска адрозьнівалі сваіх ворагаў ад прыяцеляў, а дзякуючы гэтаму ракой лілася нявінная кроў. Служкі імпэрыялізму і капіталу: афіцэрства, дваранства, паны, ксяндзы, рабіны, папы, паліцэйскія, купецтва праз увесь час прымалі ўсе крокі да таго, каб працоўны народ ня ведаў, хто іх вораг і хто прыяцель. Кастрычнікаўская рэволюцыя і Комуністычная партыя адчынілі вочы працоўным СССР. Яны зараз добра ведаюць сваіх ворагаў.

У хуткім часе зразумеюць гэта і ўсе працоўныя ўсяго сьвету.

І тады зьнікнуць назаўсёды путы няволі і жудасьць вайны.

Энэргія чалавека, якая йшла на ўзбраеньне, будзе скарыстана для іншых больш разумных патрэбаў.

# ХЛОПЧЫК БУЛАЧНІК

*Апавяданьне А. РЭЙЗІНА* *Малюнкі ВАЛО*

У адзін з летніх вечароў ля булачнай крамкі я сустрэў хлопчыка. Ён сядзеў ля дзьвярэй крамкі на паламанай скрынцы. Каля яго худых, голых і брудных ног стаяў кошык з абаранкамі.



— Чаму ты такі худы і абадраны?—запытаўся я ў хлопчыка.

Але, заместа адказу, ён глыбока ўздыхнуў.

— Ці ня хворы ты?

— Не,—адказаў ён.

— Дык чаму-ж у цябе такі кепскі выгляд?

Ён прамаўчаў і аглядзеў мяне ўсяго сваімі вялікімі затуманенымі вачыма.

— Што ты—зморана?

— Так, зморана.

— Што вы пытаеце,—умяшалася кабета—прадаўшчыца крамы, узыходзячы на ганак крамы.

— Так сабе, гутару...

Потым я зноў запытаўся.

— Чаму ты ня йдзеш дахаты спаць?

— Я йду цяпер на работу.

— Што, ты працуеш уночы?

— Але

— Удзень таксама?

— Але.

— Дык калі-ж ты сьпіш?

— З 2 да 5 гадзін удзень.

— А гаспадар?

— Ён нічога ня робіць.

— І гаспадыня?

— Таксама не.

— А іх дзеці?

— Не.

— Колькі табе плацяць за гэта?

— Нíколькі.

— Што гэта азначае?

— Два гады дармова...

— Хто яго гаспадар?—запытаўся я ў прадаўшчыцы, калі хлопчык пашоў ад дзьвярэй.

— Што, вы хіба іх ня ведаеце?—зьдзіўлена запытала яна.—Ён, тоўсты яўрэй-гандляр, яна—таксама!

Калі ў суботу яны выходзяць на вуліцу, дык кожны прахожы спыняецца, каб пацікавіцца імі. Так... Яны маюць грошы.

(*З эспэранто*).

## МОРСКАЕ ДЗІВА—ПАДВОДНАЯ ЛОДКА

Нарыс *С. Галіцына*

Падводная лодка ходзіць пад вадою электрычнасьцю, а на паверхні вады—нафтавымі маторамі. Калі лодцы трэба схавацца ў ваду, тады адчыняюцца з бакоў клапаны, вада затоплівае асобныя каморкі і яна хаваецца на патрэбную ёй глыбіню. На вялічкі падводная лодка вельмі малая—мэтраў 70—80, і ўсё-ж такая дужая, што можа затапіць карабель, які ў дзесяць разоў больш за яе. Сіла лодкі—тарпэда. Тарпэда—гэта самарухаючая міна (зарад). Гэты зарад набіты моцнаю матэрыяю, якая ўзрываецца. Матэрыя гэта завецца—толем.




*Гэтая маленькая лодка затапіла тры вялізныя параходы, што паказаны на малюнку.*

Лодка пад вадою няпрыкметна падплывае да карабля і страляе тарпэдай, якая з хуткасьцю аўтомобілю імчыцца пад вадою і стукаецца ў бераг карабля.

Атрымліваецца разрыў, і карабель топіцца.

Але цікава, як лодка можа бачыць пад вадою? Дзеля гэтага ў яе ёсьць асобнае вока. Гэта трубка—пэрыскоп, які лодка высоўвае з вады. З дапамогаю шмат люстэрак, цераз яе вораг бачыць вельмі добра. А караблю вельмі трудна ззўважыць гэтую маленькую трубку на адлегласьці 2 кілёмэтраў.

З пачатку сусьветнай вайны нямецкая падводная лодка затапіла за паўгадзіны часу цэлых тры ангельскіх вялікіх караблі. На лодцы было 12 чалавек, а на ўсіх гэтых караблях было больш як 2.000 чал. Затаплівалі падводныя лодкі і гандлёвыя караблі, затаплівалі іх цэлымі сотнямі; ад гэтага ў Ангельшчыне вельмі падаражэлі тавары. Толькі пад канец вайны ангельцы навучыліся змагацца з падводнымі лодкамі. Яны напрыдумлівалі шмат спосабаў барацьбы. Да прыкладу: яны ня пускалі гандлёвых караблёў па адным, а праводзілі іх цэлымі чародамі, пад абаронаю некалькіх вайсковых караблёў. А з некалькіх караблёў лягчэй было прыкмеціць маленькі пэрыскоп. І тады даволі было аднаго мэткага стрэлу, каб затапіць лодку.

Але страшыдлам для падводных лодак былі глыбінныя бомбы. Вайсковыя караблі чулі спэцыяльнымі апаратамі шум машыны лодкі. Яны тады плылі на тое месца, дзе знаходзілася лодка, і кідалі глыбінныя бомбы. Гэтыя бомбы ўзрываліся на глыбіні 100 мэтраў, дзе-небудзь недалёка ад падводнага ворага; яны ўзрываліся з такою сілаю, што сьценкі лодкі ніяк не маглі вытрымаць ціску ўзбоўтанай вады і трэскаліся. Вада тады кругом таго месца, дзе быў узрыў—гатавалася, як у паравым катле. І карабель чакаў, ці не пакажацца на паверхню вады тлустая пляма з нафты. Калі пакажацца, значыцца лодка загінула.

Амэрыканцы збудавалі надзвычайна вялікую лодку. У сярэдзіне гэтай лодкі знаходзіцца самалёт. Калі лодка выходзіць у адкрытае мора, яна тады выпускае гэты самалёт. А самалёту лягчэй зьверху ўбачыць варожы карабель. Ён тады дае ведаць аб гэтым сваёй лодцы, а тая падплывае да карабля і топіць яго.

* *
*

І ў нашу грамадзянскую вайну 1 чэрвеня 1919 году, двума савецкімі караблямі „Гаўрыіл" і „Азорд" у Фінскай затоцы была затоплена ангельская падводная лодка „h—55".

Прашло дзевяць гадоў, і ў чэрвені 1928 году яе ізноў паднялі на паверхню, паправілі, і яна ўвайшла ў склад нашага Чырвонага падводнага флёту.

## ШТО ЧЫТАЦЬ

**М. С. Баравы.—Па крывавых сьлядох.** БДВ, стар. 68, цана 40 кап.

„Па крывавых сьлядох"—гэта значыцца па сьлядох белага панскага арла... Хто, нават з дзяцей, не зазнаў гора ад праклятых паноў, якія некалькі год мучылі Беларусь і цяпер яшчэ мучаць тую частку, што засталася пад Польшчай. Усім даліся ў знакі разьюшаныя паны, якія шалёнымі зьвярамі накінуліся былі на рабочых і сялян Беларусі. Кнігі, што напісаны пра гэты час—гэта жудасныя сьведкі панскай лютасьці.

Яны выклікаюць абурэньне помсты, агіду да паноў, яны хвалююць чытача, бо ўсё, што апісваецца—праўда, сабраная з розных вёсак, з розных гарадоў.

Нашай моладзі трэба як найбольш чытаць такіх кніжак, бо гэтыя кніжкі малююць ува ўсёй паўнаце нашага клясавага ворага, з якім яшчэ ня ўсе рахункі зьведзены.

Кніжка „Па крывавых сьлядох" дае шмат фактаў з жыцьця Заходняй Беларусі ў нашы дні.

**В. В. Румін.—Забаўная хэмія.** БДВ. Стар. 98, цана 45 кап.

Кніжка перакладзена з расійскай мовы і выдана пад рэдакцыяй М. Грамыкі.

Кніжка мае дзьве мэты: даць матар'ял для розных забаў і пазнаёміць шляхам гэтых забаў з асноўнымі ўласьцівасьцямі хэміі. Такая пабудова матар'ялу вельмі добрая. Прарабляючы розныя нескладаныя хемічныя фокусы, можна шмат што вывучыць з хэмічных ведаў. Кніжка можа быць добра выкарыстана і ў атрадзе і ў школе.

**В. Суднік.—Цуды тэхнікі.** БДВ, стар. 176, цана 1 руб. 25 кап. Майстэрствы тэхнічнага парадку ў нашых атрадах і школах займаюць досыць значнае месца. Цікавасьць у піанэраў да майстраваньня нязвычайная. Ёсьць нават юнакі вынаходцы.

Для ўсіх гэтых дзяцей варта раіць пачытаць кніжку В. Судніка „Цуды тэхнікі". Кніжка Судніка напісана не спэцыяльна для юных чытачоў, але яснасьць у апісаньнях, прастата мовы робяць кніжку даступнай і для піонэрскага ўзросту.

У кніжцы „Цуды тэхнікі" расказваецца досыць падрабязна, дакладна тое, як людзі дайшлі да такой высокай тэхнікі якая ёсьць цяпер.

Нішто адразу не зьяўлялася. Тэхніка разьвіваецца ад першабытнага каменнага тапара і да сучасных волатаў-небаскробаў у працягу стагодзьдзяў. А разьвіцьцё гэта вельмі цікавае.

Кніжка мае такія разьдзелы: сталёвыя коні (гісторыя трактара), параходы-волаты, масты, панамскі канал, небаскробы, вежа Эйфеля, станцыі „белага вугалю" (скарыстаньне сілы вады) і дадаткі, дзе чытач знойдзе патрэбнае тлумачэньне асобных мала вядомых слоў і выразаў.



# Паляваньне на барсука

Апавяданьне *Л. Сераброўскага.*
Малюнкі *Саматыя.*



Расказаў аднойчы нам дзядзька Паўлюк, як ён на барсуку верхам пракаціўся Пашоў ён нібыта, калі маленькім быў, з таварышамі да барсуковай нары. Хлопцы пачалі барсука з аднаго ходу гнаць, а дзядзька Паўлюк стаяў, нагнуўшыся, ля другога ходу, і калі барсук выскачыў, ён сеў на яго ды паехаў.

Дзядзька Паўлюк заўсёды апавядаў нам пра такія цікавыя здарэньні. Мы яму ня верылі, але слухаць любілі і часта зімой хадзілі да яго, у хату.

— Што,—скажа—слухаць прышлі?

— Але, дзядзька Паўлюк, раскажы што-небудзь.

— А лык прынясіце?

— Прынясем!

Ён плёў лапці на продаж, і мы насілі яму лыкі.

———

Успомнілі мы неяк летам апавяданьне дзядзькі Паўлюка. Пятрусь Матрунін і кажа:

— Хадзем, хлопцы, лавіць барсука: у яго тлушча на лякарства гадзіцца.

У Пятруся ня было бацькі, і ён быў самы адважны: і курыў, і на кані стоячы езьдзіў, і дужы быў. Усё першы пачынаў, а мы ўжо за ім.

Я кажу:

— А гатоў кінуцца ды зьесьці.

— Ня зьесьць! не з такімі спраўляліся.

———

Барсукову нару мы ведалі даўно. У цёмным глухім лесе, дзе расходзіцца канаўка, вырыў сабе хітрую нару барсук. Вырыў у горцы так, што адзін ход выходзіў у Крутое, а другі запасны—у Мажаную мясьціну. „Марожанай“ гэта мясьціна называлася таму, што ў ёй адзін селянін замёрз зімою.

Галоўны ход ішоў у Крутое. Ля гэтага месца расьлі маладзенькія дубкі, было накапана шмат зямлі, і ўсё кругом зарасло хмелем.

Лавіць барсука пашлі: Петрык Матрунін, Петрык Марцоў, Сымонка Чачавічка, я і, Васілёк Юхон, ды яшчэ Кацярынка Ільмонава.

Плян у нас быў такі (гэта ўжо я выдумаў): траім ісьці ў „Марожанае“, крычаць там, бразгаць жалезам, а траім стаяць ля нары ў „Крутым“ і, калі барсук выскачыць, біць яго сукаватымі палкамі.

Узялі ў Сымонкі два лісты бляхі (яны страху перакрывалі), высяклі дубовыя палкі і гайда!

У лесе мы падзяліліся на дзьве партыі: Марцоў, Чачавічка і Кацярынка пашлі ў „Марожанае“, а мы трое—у „Крутое“, барсука біць.

Пасталі ціханька ля нары і чакаем. Петрык Матрунін рукавы закасаў, нагу адставіў, палку падняў і замёр.

Страшна! кругом ціха, і хмелем пахне.

Зайшлі сябры да запаснога ходу і давай стукаць. Пачалі крычаць. Напэўна, у вёсцы чутно было. Мы моцна ашчарэпілі палку рукамі. Вось выскачыць.

Не! барсук ня выйдзе.

Чачавічка крычыць:

— Ну што? забілі?

— Забілі! Ранены два! Ня йдзе!

Петрык кажа:

— Трэба агледзіць. Можа ён ня жыве тут.

Палез да самай нары. Пацягнуў носам.

— Сьмярдзіць! і сьляды ёсьць. У нару лазіў, таўсьцяк!

Васіль маргнуў мне: „давай напалохаем“, ды як крыкне: „Барсук“! Петрык крыху задрыжаў, а потым адразу здагадаўся:

— Не на таго нарваўся! Вось што: трэба дымам выкурыць, а то так ня выганіш. Барсук хітры: прытаіўся, напэўна, і сядзіць.

— Давайце дымам,

Нацягалі сухіх палак, расклалі ля нары агонь, і мы ўтраіх пабеглі на свае месцы. Я крычу:

— Махайце чым-небудзь, каб дым у нару йшоў!

— Я хвартухом буду! — крычыць Кацярынка.

Раптам у нары: Ф-фы! Ф-фы! Ф фы! Што тут з намі, паляўнічымі, сталася! Як кінуліся мы бегчы! Васілёк закрычаў: „Барсук“! Тыя ўсе таксама драла далі. Бяжым па лесе, як асмаленыя, а потым—на дрэвы! Аддыхаліся, апамяталіся. І сьмешна і сорамна. Я крычу:

— Вы дзе?

— На хвоі!

— І мы таксама!

Толькі Кацярына на дрэва не папала: імчыцца па лесе на ўсю сілу.

Потым чуем, кінулася ў раўчук, загаласіла, заплакала.

У нас страх трохі прайшоў Петрык кажа:

— Гэта ты ўсё!

— Сам добры, храбрэц!

— Трэба да Кацярынкі йсьці.

Кацярынка разьбіла сабе калена аб пень. Кажа—ісьці ня можна. Зрабілі мы насілкі з палак, пасадзілі і панесьлі яе.

Юхонь песьню злажыў:

Мы лавілі барсука
Там у лесе дзе рака
Ой! Ой! Ой! Ой!

Страшным быў барсук вось той.

— Ну-ж і барсук! У спадніцы, у хустцы, у кафтане! Вылезьлі мы на ўзгорак, паглядзелі назад: дым, дым па лесе...

— Пажар! Лес загарэўся! Вось нарабілі бяды!

Кінулі Кацярынку і назад. А ля нары ўжо сапраўдны пажар!

Бяжыць вагеньчык па зямлі, з травы на лісьцё перабіраецца, з сучка на сучок пераскаквае і ўсё далей і шырэй...

Петрык крычыць:

— Тушыць!—

І ўсе кінуліся агонь затоптваць. Васілёк з Чачавічкай з канаўкі ваду шапкамі цягаюць. Ды дзетам: пакуль прынясуць—уся выцеча.

Петрык крычыць:

— Кіньце цягаць! тапчэце!

— У пяты горача.

— Цярпі!

Насілу ўціхамірылі агонь. А то-б нарабілі бяды: пажар ужо да кучаў хворасту стаў набліжацца.

На гэтым і скончылася нашае паляваньне на барсука.

А потым ужо даведаліся, што жыў там не барсук, а лісіца яго старую нару заняла. Мы раз пашлі туды, а ля ўваходу маленькія лісяняткі: выбеглі і на нас:—ях! ях!

Вось пацеха.



*Як кінуліся мы бегчы!*

# ЭЛЕКТРЫЧНАСЬЦЬ

*(Апавяданьне хлопчыка)*

**Сяляне ў нашай вёсцы наладзілі электрычнасьць. Мы таксама дзьве лямпачкі павесілі ў нашай хаце. А ў нас быў стары дзядуля. Убачыў ён, як лямпачкі пачалі прывешваць, пачаў лаяцца**



*Лямпачка Ільліча. Мал. Неўскага.*

**Вы, кажа, чартоў пацяшаеце, і пузыркі вашы ня будуць гарэць. Я таксама ня верыў, пакуль наладжвалі. А калі ўсё зрабілі, выпусьцілі сьвятло на ўсю хату, мы зьдзівіліся.**

**— Што такое!**

**У пузырках валасочкі тоненькія загарэліся, а самі пузыркі трошкі цёпленькія. Над кожным пузырком галоўка чорная прыроблена, а ў галоўцы—маленькая ручка. Павернеш за гэту ручку направа—агонь патухае. Газы налiваць ня трэба і запалак ня трэба.**

**Тут майстар, які прыладжваў усё, сказаў нам:**

**— Вот, дзеці, да чаго вучоныя людзі даходзяць; у хаце сьветла, і агары няма. Можна і ў печы не паліць, на электрычнасьці ўсялякая страва згатуецца. І коняй ня трэба—поле араць—можна плуг электрычны зрабіць; сам пойдзе, басаном не дагоніш...**

**Вышлі ўсе з хаты, ня церпіцца мне, хачу добра даведацца; пячэцца ці не пячэцца валасок у пузырку. Адвярнуў пузырок ад галоўкі—агонь патух. Памацаў я пальцам тое месца галоўкі, дзе пузырок прыкручаны, а мяне як тузане за пальцы, я закрычаў.**

**Увайшоў майстар у хату, пытаецца?**

**— Ты чаго крычыш?**

**Я сказаў:**

**— За пальцы тузанула мяне.**

**А майстар кажа:**

**— Адкручваць лямпачку ня трэба, калі электрычнасьць гарыць, можа на сьмерць забіць чалавека...**

**АЛЕСЬ НЯВЕРАЎ.**



# ХІТРЫ АСЁЛ

Казка *І. Франко.*

Малюнкі *Філіповіча.*

Быў сабе раз асёл. Зашмат яму сталапрацы і бізуноў у гаспадара.

— Давай, — думае, — уцяку ў лес і буду жыць на волі! Буду сабе пасьвіцца ў лесе і хто мне што зробіць? І, ня думаючы доўга, уцёк ад гаспадара дый пачгаў у лес.

Добра яму ў лесе. Пасецца, дзе хоча, нічога ня робіць, ніхто ня б'е яго—колькі жыве, яшчэ такой выгоды ня меў.

Аж аднойчы глядзіць, ідзе леў страшны—прастрашны, ды і проста на яго.



— Ну, думае сабе асёл,—вось цяпер канцы будуць!

Але пакуль леў падышоў да яго, асёл неяк трохі апамятаваўся і памеркаваў сабе:

— Ану, можа, я яго як-небудзь і абдуру?

І як стаяў—бух на зямлю, лёг сабе і ляжыць, быццам і ніякага клопату яму.

Падыходзіць леў і крычыць ужо здалёку:

— Эй ты, хто там? Як ты сьмееш ляжаць? Чаму ня ўстанеш і не паклонішся мне?

А асёл нібыта й ня чуе. Ляжыць сабе ды толькі доўгімі вушамі клыпае.

Падышоў леў і зноў крычыць яшчэ здалёку:

— Эй ты, хто там? Як ты сьмееш ляжаць? Чаму ня ўстанеш і не паклонішся мне?

А асёл нібыта й ня чуе. Ляжыць сабе ды толькі доўгімі вушамі клыпае.

Падышоў леў і зноў крычыць:

— Зараз устань і пакланіся мне!

— А хто-ж ты такі?—пытае асёл.

— Ты яшчэ й пытаешся?—крычыць грозна леў.—Хіба ты ня ведаеш, што я леў, над усімі зьвярамі цар?

Асёл, не ўстаючы, падняў галаву і вытрашчыў на яго вочы.

— І што ты за дурнату плявузгаеш?—сказаў ён.—Ты цар над усімі зьвярамі? Хто табе гэта сказаў? Маеш на гэта дакумант? Хто цябе выбраў за цара? Ну, кажы!

Леў стаў, як галавой у сьцяну стукнуўся.

— Хто мне гэта сказаў? Ды ўсе мне так кажуць, што я над зьвярамі цар. Хіба-ж гэта ня праўда?

— Ды канешна, што не. Зусім ня праўда, бо цар над усімі зьвярамі ня ты, а я.

— Ты,—зьдзівіўся леў.—А ты хіба маеш на гэта дакумант?

— Пэўна, што маю! Вось паглядзі толькі!

І ён устаў на ногі, павярнуўся азадкам да льва і паказаў яму свой задні капыт, на якім была прыбіта новенькая бліскучая падкова.

— Бачыш? Гэта мая царская пячатка. Калі-б ты быў цар, дык й ты меў-бы такую.

— Ото дзіва!—сказаў леў.—А я пра гэта й не падумаў ніколі. Мабыць, твая праўда. Але пачакай! Давай будзем спрачацца. Пойдзем у лес, і хто за гадзіну наловіць больш зьвяроў, той будзе праўдзівы цар.

— Добра, няхай і так будзе,—сказаў асёл, і з гэтым разышліся.

* * *

Леў пабег па лесе; бегаў, бегаў: тут злавіў сэрну, там зайчыка, там зноў нейкую зьвярыну — за гадзіну меў нешта пяць ці шэсьць штук. Потым бярэ ўсё гэта й валачэ да асла. А асёл тым часам што робіць? Пашоў сабе на шырокую палянку, дзе сонейка ясна сьвяціла і кінуўся на зямлю, ногі адкінуў, вочы прыплюшчыў, язык высалапіў на поўлокця—сказаў-бы кожны: здох асёл.

А над палянкаю ўсе крумкачы лятаюць, вароны, галкі і ўсялякая паганае птаства. Бачаць яны, ляжыць няжывы асёл, дык і шуганулі ўсе гуртам да яго. Спачатку здалёк прыглядаліся, але бачаць, што не варушыцца, дык і пачалі на яго скакаць, дзяўбці яго язык і вочы. А асёл ляжыць ціхенька, толькі калі якая з птушак надта блізенька падлезе, дык ён цап яе зубамі, або стук яе нагою — б'е дый хавае пад сябе так хітра, што іншыя й ня бачаць. Ня мінула й гадзіны, а ён надушыў іх з поўкапы. Тады калі ўсхопіцца на

ногі, калі затрапечацца, як зарыкае, а птушкі ўсе ў рассыпную. Асёл сабраў усіх пабітых птушак і нясе на тое месца, дзе мелі сустрэцца з львом.

Прыходзіць на тое месца неўзабаве і леў са здабычаю, а асёл ужо там.

— Ну, што, — кажа леў аслу і паказвае яму сваю здабычу,—бачыш, колькі я налавіў?

— Ну й дурны-ж ты, леў,— кажа асёл і капянуў яго зьвяроў нагою.—Такіх зьвяроў я мог-бы быў налавіць са дзьве капы. Што-ж



яны варты? А ты паглядзі на маіх. Я толькі такіх лавіў, што ў паветры лятаюць. А ну папрабуй ты.

— Не, я такой птушкі не ўбяру—адказаў леў.—Вот цяпер бачу на праўдзе, што ты між зьвярамі цар, а ня я! Выбачай мяне, што я так абышоўся з табою.

— А бачыш!—прамовіў горда асёл.—Заўсёды трэба быць растаропным. Вот і цяпер я мог-бы цябе пакараць сьмерцю, але выбачаю табе, бо ты з дурноты гэта зрабіў, а не са злой волі. Ідзі-ж цяпер і пільнуйся на другі раз!

* * *

І леў пашоў спусьціўшы нос ды падагнуўшы хвост, нібыта хто выліў на яго бочку ледзяной вады.

Ці блізка, ці далёка, спатыкае ў лесе воўка.

— Здаровенькі былі, найясьнейшы цар!—Кажа воўк і кланяецца нізенька.

— Ат, ідзі, ня сьмейся з мяне!—кажа сумна леў.—Які я табе цар?

— Як гэта не?—закрычаў воўк.—Хто-ж бы асьмеліўся іначай назваць?

— Маўчы, браце,—шэпатам кажа да яго леў.—Тут недалёка ёсьць праўдзівы цар. Як пачуе, бяда будзе і табе і мне.

— Праўдзівы цар?—дзівіцца воўк.—Што за дзіва? Якія-ж тут ёсьць праўдзівы цар, апроч цябе?

— Ёсьць, ёсьць!—шэпча перапалоханы леў. Я сам яго бачыў. Ды такі страшны! А што за сіла! Нават тых зьвяроў ловіць, што ў паветры лятаюць. Добра, што мяне жывога пусьціў.

— Ну, што ты гаворыш!—дзівіўся воўк.

— Дзіва-дзіўнае! Ведаю гэты лес здаўных, але ніяк ня прыдумаю, хто-б гэта мог быць. Як-жа хаця выглядае той страшны зьвер?

— Адно слова—страшны! — казаў леў.— Вушы вот такія, галава, як конаўка, а на задняй назе царскі дакумант.

— Ніяк не здагадаюся, хто гэта можа быць? турбаваўся воўк.—Ведаеш што, ідзі, пакажы мне яго!

— Я? Нізавошта на сьвеце!—закрычаў леў. Досыць ужо раз страху набраўся.

— Ды хадзем бо! Чаго баяцца?—заахвочваў воўк.—Вот ведаеш што, прывяжы сябе сваім хвастом да майго, сьмялей нам будзе йсьці.

— Па мне,—кажа леў,—няхай і так будзе.

Зьвязаліся абодвы хвастамі і пашлі. Вышлі на палянку, дзе пасьвіўся асёл. Леў спыніўся:

— Вот ён, вот ён! Пацікаўся!

Павярнуўся воўк, ды калі крыкне:

— Дурны леў, дык гэта-ж асьліска!

А льву здалося, што той страшны зьвер ужо блізка, як напалохаецца ды ходу! Праз пянькі, праз калоды, што было духу! Пёр, пёр, потым змарыўся, стаў і агляннуўся.

— А што, воўча, блізка ўжо той страшны зьвер?

Але воўк толькі язык высалапіў. Як быў прывязаны да львінага хваста, так і валокся за ім праз усю дарогу і даўно ўжо свой дух спусьціў.

— А бачыш,—кажа да яго леў,—ты казаў, што новы цар ня страшны, а як убачыў яго блізка, дык ад аднаго толькі страху памёр.



*З сенажаці.*




## Чароўны пень

Спаткаў селянін у лесе знаёмага дзеда. Разгаварыліся. Дзед і кажа селяніну:

— Ведаю я ў гэтым лесе пянёк адзін цікавы. Вельмі памагае ў бядзе.

— Як памагае?

— А вось так: паложыш пад пень свой кашалёк з грашыма, далічыш да ста—і гатова: грошы ў кашальку падвоіліся! Вось які той пень.

— А-а-а, вот, каб гэта мне паспрабаваць шчасьця,—сказаў селянін.

— Заплаціць трэба, —адказаў дзед.

— Каму плаціць і ці многа?

— Таму, хто дарогу пакажа,—мне.

Пачалі таргавацца. Дзед, уведаўшы, што ў селяніна ў кашальку грошай мала, згадзіўся, каб пасьля кожнага падвоеньня селянін плаціў яму ўсяго 1 р. 20 к. На гэтым і сышліся.

Дзед павёў селяніна ў лес, доўга хадзіў з ім і, нарэшце, знайшоў сярод кустоў стары, пакрыты мохам пень.

Узяўшы ў селяніна кашалёк, дзед засунуў яго глыбока паміж карэньнямі пня. Далічылі да ста. Дзед зноў пачаў шукаць паміж карэньнямі, нарэшце, дастаў адтуль кашалёк і падаў селяніну.

Паглядзеў селянін: што за дзіва—грошы сапраўды падвоіліся! Заплаціў дзеду дакляраваныя 1 р. 20 к. і папрасіў яшчэ раз засунуць кашалёк пад чароўны пень.

Зноў далічылі да ста, зноў дзед пачаў шукаць між каранёў, і зноў сталася дзіва: грошы падвоіліся. Дзед узяў свае 1 р. 20 к. у другі раз.

Прарабілі зноў таксама гэтую штуку. Грошы і на гэты раз падвоіліся, але калі селянін заплаціў дзеду 1 р. 20 к., у яго ў кашальку не засталося ніводнай капейкі.

Падвойваць больш ужо ня было чаго, і селянін спусьціўшы нос пашоў дамоў.

Вы здагадаліся, напэўна, што цудоўныя падваеньні грошай няпрыкметна для селяніна прарабляліся хітрым дзедам, калі ён лазіў пад пень даставаць кашалёк.

Але ці ня можаце вы адказаць на другое пытаньне: колькі было ў селяніна грошай да таго часу, як ён спаткаўся з дзедам і пачаў прарабляць вопыты?



*Варона тут, а дзе-ж лісіца?*

## ЗАДАЧА

М. Янкоўскі.

Злажэце з наступных фігур раму ў вакно з трыма шыбамі.







### Спакойныя вучні

— У нас, здаецца, вельмі спакойныя вучні. Ні разу ня чутно, каб настаўніца на іх крычала.

Дзіва, што ня крычыць. Ужо і так даўно горла сапсавала ад крыку.

### Актывісты

— Ты ў сваёй насьценнай газэце прымаеш удзел?

— Ого! Яшчэ нават і які ўдзел.

— Мусіць, допісы ў кожны нумар пішаш?

— Не! Я ня пішу... Пра мяне пішуць...

## ЦІКАВЫ ПАПУГАЙ

Робіцца такі папугай з фанэры ці з моцнага картону.

Бярэце кавалак фанэры (прыблізна 30×12 см.), і зрабеце на ім малюнак папугая. Потым выразайце гэты малюнак. У пункце *А* зрабеце дзірачку, а ў пункце *В* выраз (глядзі пункцір). Цяпер вазьмеце кавалак волава і зрабеце з яго такую фігуру (гл. мал. № 2), гэту фігуру ўстаўляеце ў дзірку А. Потым вазьмеце кавалак бляхі і выразаеце з яе лапатку (гл. мал. № 3Д). Верхні канец яе змазваеце клеем і ўстаўляеце ў выраз *В*. Няхай клей падсохне. Папугая яшчэ можна пафарбаваць. Цяпер пастаўце папугая лапаткай на палец ці на якую палачку, паварушэце яго і ён будзе бязупынна кланяцца.










В. Грыбаў.

Друк. БДВ. Зак. № 3051. У ліку 1.200. Галоўлітбел № 1960.